



# РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА

1 лютага 2013 года
№ 5 (927)

ТэлетыДзень 26

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




## навіны рэгіёна

### Выбралі праект помніка Максіму Танку ў Мядзеле

**МЯДЗЕЛ.** 22 студзеня ў Мінску адбылося пасяджэнне журы конкурсу эскізных праектаў помніка Максіму Танку. Праходзіла яно ў мастацкай галерэі "Акадэмія" Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. На суд журы прадставілі чатыры праекты помніка. У выніку былі ухвалены праект скульптараў **Аляксандра Фінскага** і **Івана Міско** і архітэктара **Армена Сардарава**. У вышыню помнік будзе 2 метры 80 сантыметраў. Мяркуецца зрабіць яго з натуральнага каменя і бронзы. Помнік будзе ўстаноўлены ў Мядзеле на рагу вуліцы 17 Верасня і плошчы Шаранговіча. Там у верасні мінулага года падчас святкавання 100-годдзя з дня нараджэння песняра з'явіўся памятны камень.

### Ашмяны – цэнтр абласных "Дажынак-2013"

**АШМЯНЫ.** Гродзенская вобласць восенню будзе адзначаць свята працаўнікоў вёскі ў Ашмянах. Старшыня Ашмянскага райвыканкама **Юры Адамчык** паведаміў пра гэта ў панядзелак, 29 студзеня. У райвыканкаме пачнецца праца па падрыхтоўцы горада да свята. Рамонты, рэканструкцыя і добраўпарадкаванне зменяць знешні выгляд Ашмянаў. Гэта тычыцца не толькі цэнтра, але і іншых мікрараёнаў горада. Запланаваная арганізацыя месцаў для адпачынку, знос старых будынкаў. Спецыяльна створаны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы да свята, праца якога пачалася на гэтым тыдні.

**Аддзел інфармацыі.**



# Перанесці грып на нагах, што згубіць год жыцця



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Некаторыя меры прафілактыкі могуць прадухіліць хваробу.

**МАЛАДЗЕЧНА. Грып куды больш небяспечны, чым можа падацца на першы погляд.**

Таму вельмі важна адразу распазнаць першыя прыкметы хваробы і, не адкладваючы, прыступіць да лячэння.

– Прагназавалі грып на канец студзеня – пачатак лютага, – патлумачыла загадчыца Вілейскай раённай паліклінікі **Таццяна Рамэра**. – У нас уздым захворванняў на вострыя рэспіраторныя захворванні пайшоў, але грып пакуль не рэгістравалі.

У Валожыне і Смаргоні выпадкі грыпу сёлета таксама яшчэ не рэгістравалі.

У Маладзечне выпадкі захворвання ёсць, але эпідэміі няма. Пра гэта паведаміў намеснік галоўнага доктара ЦРБ па амбулаторна-паліклінічным раздзеле работы **Уладзімір Сымановіч**.

### Грып – гэта не дробязь!

– Многія лічаць, што грып – гэта дробязь, – кажа загадчыца чацвертага педыятрычнага аддзялення Маладзечанскай дзіцячай паліклінікі **Ганна Ладзята**. – І калі чалавек думае, што, перахварэўшы адзін раз, больш не захварэе, то глыбока памыляецца. На грып можна захварэць і некальі разоў на год. Таму да свайго здароўя трэба ставіцца вельмі адказна.

У дактароў ёсць такі выраз: грып, які да канца не вылечыць і перанесці на нагах, – тое самае, што згубіць год жыцця.

### Падхапілі вірус – хуценька лячыцца

– Першыя прыкметы грыпу могуць выявіцца ўжо на працягу аднаго-двух дзён пасля таго, як вы падхапілі вірус. Звычайна першыя праявы хваробы – гэта стомленасць, ламата ў суставах, святлабоязь – кажа Ганна Сціпанаўна.

І абавязкова сачыце за сваёй тэмпературай. Калі павышаная трымаецца больш за суткі – трэба выклікаць "хуткую дапамогу".

### Каб не заразіць калег – сядзіце дома

Па-першае, падчас хваробы вялікую адказнасць вы несяце за сябе самі. Бо невядома, які орган адрэагуе на хваробу і якія ўскладненні яна за сабой панясе.

Па-другое, вы адказныя за сваіх калег.

### Мажце нос аксалінавай маззю

Але гэтай маззю трэба мазаць не свой нос, а сваіх родных. Тады вірус не будзе да іх чапляцца.

– Таксама трэба надзяваць маску, – дадае Ганна Сціпанаўна.

Хвораму на грып неабходны пасцельны рэжым і шмат піць цёплай гарбаты.

Каб не захварэць, варта загартоўвацца. Лепш за ўсё часцей хадзіць пешшу, а не ездзіць на машыне.

Два разы на дзень з'ядаць па яблыку, бо ён павышае імунітэт і спрыяе лепшаму страўленню. У цыбулі шмат вітамінаў, яна забівае мікробы. Таму не выключайце гэты прадукт са свайго рацыёну.

### Зрабіце каралі з часнаку

У якасці прафілактыкі ешце па адным зубку часнаку ў дзень. Маладым дапаможа ад прастуды, а тым, каму за 40 гадоў, – і ад атэрасклерозу.

Дзецям можна зрабіць часночныя каралі ці браслет. Гэта не значыць, што яны цалкам павінны быць з часнаку, але некалькі зубкоў няхай вісяць.

Як і дзеткам, так і дарослым можна зрабіць медальёны з аромаалеяў. Алей можа быць розным, напрыклад, лавандавы, чайнага дрэва, піхтавы.

Такія алеі выкарыстоўваюць у якасці дэзінфекцыі, яны паляпшаюць імунітэт.

Але будзьце асцярожныя з апельсінавым алеем, бо ў некаторых дзяцей можа быць алергія на цытрусавыя.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

**Заканчэнне на 20-й старонцы.**

ПАМЯЦЬ

# Угодкі Дуніна-Марцінкевіча адзначаць на Валожыншчыне

**ВАЛОЖЫН. Чацвертага лютага беларусы адзначаюць 205-годдзе з дня нараджэння драматурга, паэта, тэатральнага дзеяча Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.**

Асаблівая ўвага надаецца ўгодкам на Валожыншчыне: у фальварку Люцінка драматург пражыў больш за дваццаць гадоў.

### У бібліятэцы пройдзе літаратурная гасцёўня

– Наша мерапрыемства будзе не надта масавым, – распавядае **Алена Сугака**, загадчыца дзіцячай бібліятэкі. – Напачатку мы раскажам удзельнікам пра лёс нашага знакамітага земляка, зробім агляд тых кніг, якія ёсць у нашай бібліятэцы, абмяркуем творы. Ахвотныя змогуць прачытаць вершы Дуніна-Марцінкевіча.

Літаратурныя гасцёўні праходзяць у бібліятэцы рэгулярна. Актыўны ўдзел у іх прымаюць удзельнікі літаратурнага клуба "Кругагляд".

### Дом культуры прыме конкурс выканаўцаў

Раённы конкурс выканаўцаў пройдзе ў сярэдзіне лютага. Удзельнічаць у ім могуць і школы, і ўстановы культуры. Узроставых абмежаванняў конкурс не мае. Адзінае патрабаванне – жаданне прачытаць верш Дуніна-Марцінкевіча ці падрыхтаваць інсцэніроўку яго драматычных твораў.

– Ацэньваць удзельнікаў будзе журы, – кажа **Валянціна Гіруць-Русакевіч**, кіраўніца народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання "Рунь". – У ім збяруцца прадстаўнікі аддзелаў культуры, адукацыі, а таксама аддзела па справах моладзі. Пераможцы атрымаюць не толькі дыпломы, але і падарункі.

– Да ўгодкаў Дуніна-Марцінкевіча мы рыхтуем слайд-прэзентацыю, – распавядае **Наталля Лоўчая**, дырэктар раённага музея. – У такой лёгкай для разумення форме мы раскажам пра жыццё і творчасць пісьменніка. На жаль, ніякіх яго рэчаў у фондзе няма – ні крэсла, ні вопраткі, ні стала. Таму будзем выкарыстоўваць тое, што ёсць. Напрыклад, фотаздымкі яго родных, якія прыляталі з Амерыкі на мінулыя ўгодкі, калі пісьменніку спаўнялася 200 гадоў. Таксама здымкі мясцінаў, якія доўгі час былі звязаныя з імем драматурга – архіўныя і сучасныя віды Люцінкі. Нашу працу пакажам гледачам на конкурсе ў Доме культуры.

Канчатковая дата конкурсу не называецца. Пакуль мерапрыемства запланаванае на 17 лютага.

– Цяпер толькі пачынаецца грып у нашым рэгіёне, – кажа дырэктар раённага цэнтра культуры **Марыя Тур**. – Калі да сярэдзіны лютага хвароба будзе пашырацца, то перанясём конкурс на больш позні час. З кім жа яго праводзіць, калі людзі будуць хварэць?

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**




Фота забяспечана Наталляй ЛОЎЧАЙ.

**Нашчадкі Дуніна-Марцінкевіча наведалі Люцінку ў 2008 годзе, калі адзначаўся 200-гадовы юбілей пісьменніка. Некаторыя прыехалі нават з ЗША.**

АНОНСЫ

## Вечарына Аляксандра Хазяніна

**МАЛАДЗЕЧНА. На сустрэчу "Каб падабрэў свет і чалавек у ім" былога рэдактара "Маладзечанскай газеты", журналіста Аляксандра Хазяніна запрашае паэтычная суполка "Агмень".**

Сустрэча пачнецца а 18 гадзіне ў малой зале Палаца культуры 1 лютага, паведаміла кіраўніца суполкі **Таццяна Атрашкевіч**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

СПОРТ

## Аграрыі ў спорце

**МЯДЗЕЛ. У нядзелю, 27 студзеня, прайшла раённая спартакіяда "Здароўе" сярод работнікаў аграпрамысловага комплексу.**

Пераможцам спартакіяды стала каманда прадпрыемства меліярацыйных сістэм. На другім месцы – працаўнікі таварыства "Зані". Замкнулі тройку прызёраў прадстаўнікі таварыства "Будслаўскае".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Як пачынаем плаціць за электраэнергію і газ

**Ад 1 лютага ўводзіцца трохузроўневая сістэма тарыфаў у залежнасці ад аб'ему спажывання электраэнергіі і газу.**

Як цяпер лічыць, колькі плаціць за электрычнасць, патлумачана ў **табліцы 1**.

Гэта сістэма не тычыцца таксама і той энергіі, якую забіраюць электракатлы для патрэб ацяплення і абагрэву вады магутнасцю больш за 5 кВт .

У дамах, абсталяваных шматтарыфнымі электроннымі прыборамі ўліку энергіі ці аўтаматызаванымі сістэмамі кантролю і ўліку энергіі, плаціць можна на выбар. Ці дыферэнцыявана па часавых перыядах тарыфаў ці па аднаставачным тарыфе з улікам парадку аплаты, прадугледжанага ў пастанове.

Плату за паслугі электразабеспячэння з тых, хто жыве ў дамах, якія не абсталяваныя прыборамі індывідуальнага ўліку расходу электраэнергіі, будуць браць па тарыфе, які забяспечвае поўную аплату затрат (уступае ў моц ад 1 ліпеня)

## Як пачынаем плаціць за газ

Плату за газ у дамах, забяспечаных індывідуальнымі ацяпляльнымі прыборамі і прыборамі індывідуальнага ўліку расходу газу, аплату будуць браць штомесяц у залежнасці ад гадавых аб'ёмаў яго спажывання. Налічваць іх будуць нарастаючым вынікам штогод ад 1 студзеня. **(Табліца 2)**

Гэты парадак не распаўсюджваецца на сем'і, якія пералічаныя ў "Выключэннях"

У тых, хто жыве ў дамах з індывідуальнымі газавымі ацяпляльнымі прыборамі і без усталяваных прыбораў індывідуальнага ўліку расходу газу, будуць браць поўную аплату. Выключэнне – выпадкі, калі эканамічна немэтазгодна ці тэхнічна немагчыма ўсталяваць гэтыя прыборы.

## Выключэнні

- Шматдзетныя сем'і
- дзіцячыя дамы сямейнага тыпу
- сем,і, што выхоўваюць дзяцей, калі бацькі ў поўнай сям'і (ці адзін з бацькоў у няпоўнай сям'і) інваліды 1 і 2 групы. А таксама калі адзін з бацькоў у поўнай сям'і інвалід 1 групы, а другі даглядае яго і атрымлівае адпаведную дапамогу
- няпоўныя сем'і, якія выхоўваюць дзіця-інваліда



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Такія лічыльнікі не дазваляюць дэферэнцыяваць плату за электраэнергію.

**Табліца 1**

| Дамы, абсталяваныя электрычнымі плітамі | | Дамы, не абсталяваныя электрычнымі плітамі | | Дамы не абсталяваныя электраплітамі, гарачай вадой і прыродным газам | |
|---|---|---|---|---|---|
| да 250 кВт/гадз | па тарыфе = 324,9 | да 150 кВт/гадз | па тарыфе = 382,4 | да 300 кВт/гадз | па тарыфе = 382,4 |
| ад 250 да 400 | тарыф + павышаючы каэфіцыент 1,3 = 422,4 | ад 150 да 300 | тарыф + каэфіцыент 1,3 = 497,1 | больш за 300 | тарыф + каэфіцыент 1,3 = 497,1 |
| больш за 400 | па тарыфе, які забяспечвае поўную аплату затрат = 841,7 | звыш 300 | па тарыфе, які забяспечвае поўную аплату затрат = 841,7 | | |

## Як павысіліся тарыфы

Ад першага лютага павысіліся тарыфы на электраэнергію. **(Табліца 3)**

**Паводле пастановы Савета Міністраў №52 ад 23 студзеня 2013 года, БелТА.**

**Табліца 2**

| Колькасць кубаметраў | Як аплачваць | Кошт за кубаметр газу (уступае ў моц ад 1 ліпеня) |
|---|---|---|
| да 3 кубаметраў | па кошце, устаноўленым заканадаўствам | у ацяпляльны перыяд = 358,8 летам = 933,6 |
| ад 3 да 5,5 | устаноўлены кошт + каэфіцыент 1,3 | у ацяпляльны перыяд = 466,4 летам = 1213,7 |
| ад 5,5 | цалкам аплачваць паслугу | 2095,1 |

**Табліца 3**
**Кошт на электраэнергію ў дамах, абсталяваных ва ўстаноўленым парадку электрычнымі плітамі**

| | Новы кошт | Было |
|---|---|---|
| аднаставачны тарыф | 324,9 рублёў за 1 кВт/гадз | 274,4 рублёў за 1 кВт/гадз |
| па дыферэнцыяваным тарыфе ў час мінімальных нагрузак (ад 22 да 17 гадзін) | 227,4 | 192,1 |
| у час максімальных нагрузак (ад 17 да 22 гадзін) | 649,8 | 548,8 |

**Электраэнергія для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння з далучанай магутнасцю абсталявання больш за 5 кВт**

| | Новы кошт | Было |
|---|---|---|
| У час мінімальных нагрузак (ад 23 да 6 гадзін) | 382,4 за 1 кВт/гадз | 323 |
| У час максімальных нагрузак (ад 6 да 23 гадзін) | 1147, 2 | 969 |

**Электрычная энергія, за выключэннем указанай у папярэдніх выпадках**

| | Новы кошт | Было |
|---|---|---|
| Аднаставачны тарыф | 382,4 рубля за 1 кВт/гадз | 323 рубля за 1 кВт/гадз |
| Па дыферэнцыяваным тарыфе ў час мінімальных нагрузак (ад 22 да 17 гадзін) | 267,7 | 226, 1 |
| Па дыферэнцыяваным тарыфе ў час максімальных нагрузак (ад 17 да 22 гадзін) | 764,8 | 646 |

| Курсы валют НБ РБ | 24.01 | 31.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 8 640.00 | **8 630.00** |
| **Еўра** | 11 490.00 | **11 660.00** |
| **Злоты** | 2 763.30 | **2 788.41** |
| **Літ** | 3 329.86 | **3 376.04** |
| **Расійскі рубель** | 286.00 | **287.50** |
| **Грыўня** | 1 063.38 | **1 060.13** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| **Долар ЗША** | 8640/8730 | **8600/8660** |
| **Еўра** | 11400/11580 | **11580/11700** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 23.01 | 30.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.,** 1 кг | – | **110500** |
| **Сасіскі,** 1 кг | – | **44750** |
| **Свініна, лапатка,** 1кг | – | **55000** |
| **Ялавічына, кумпяк,** 1 кг | – | **85900** |
| **Кураня-бройлер,** 1 кг | – | **27900** |
| **Мінтай свежамарожаны,** 1 кг | – | **22700** |
| **Селядзец,** 1 кг | – | **32000** |
| **Скумбрыя х/в,** 1 кг | – | **85000** |
| **Рыс,** 0,9 кг | 5500 (0,7 кг) | **10700** |
| **Грэчка,** 0,9 кг | 4200 (0,7 кг) | **9950** |
| **Яйкі курыныя,** 1 дзес. | – | **10000** |
| **Алей** | 17500 | **16500** |
| **Маянэз,** 200 г | – | **4600** |
| **Соус "Мінскі",** 0,5 л | – | **7600** |
| **Кава "Nescafe",** 100 г | – | **30000** |
| **Шпроты,** бляшанка 160 г | – | **9300** |
| **Цыбуля рэпчатая,** 1 кг | 3700 | **4000** |
| **Капуста,** 1 кг | 3500 | **4000** |
| **Морква,** 1 кг | 4000 | **4000** |
| **Буракі,** 1 кг | 3500 | **3500** |
| **Лімоны,** 1 кг | 18000 | **18000** |
| **Апельсіны,** 1 кг | 15000 | **14000** |
| **Мандарыны,** 1 кг | 16000 | **16500** |
| **Памідоры,** 1 кг | 26000 | **26000** |
| **Агуркі,** 1 кг | 29000 | **25000** |
| **Перац,** 1 кг | 30000 | **28000** |
| **Вінаград,** 1 кг | 22000 | **23500** |
| **Бананы,** 1 кг | 12700 | **13500** |
| **Яблыкі,** 1 кг | 8500 | **5000** |
| **Грушы,** 1 кг | 18000 | **18000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако,** 1,5 л | – | **12000** |
| **Масла,** 1 кг | – | **70000** |
| **Тварог,** 1 кг | – | **34000** |
| **Яйкі курыныя,** 1 дзес. | – | **18000** |
| **Сала,** 1 кг | – | **56000** |
| **Бульба,**1 кг | – | **2500** |
| **Мёд,** 1 кг | 60000 | **60000** |




Раскрыццё крадзяжу электрычнасці пачынаецца з таго, што вымяраюць нагрузку на падстанцы ці правадах.

# Раскрыццё крадзяжу – нібы рыбалка

**ВІЛЕЙКА. Вядома нямала спосабаў крадзяжу электраэнергіі, і народныя ўмельцы вельмі актыўна іх выкарыстоўваюць.**

Карэспандэнт "Рэгіянальнай газеты" вырашыла паглядзець, як жа інспектары энерганагляду адшукваюць гэтыя крадзяжы?

### Зловім ці не зловім!

Праца інспектараў нагадвае рыбалку. Для таго, каб вызначыць, крадуць электраэнергію ці не, трэба шмат зрабіць.

Спачатку на камплектнай трансфарматарнай падстанцыі мераюць нагрузку. Калі на падстанцыі заўважаюць, што вялікая нагрузка, тады правяраюць на правадах.

Нагрузку на правадах правяраюць спецыяльнай вымяральнай штангай, у народзе яе празвалі "вудай". Гэтую вуду накідваюць на лінію электраперадач і глядзяць, з якога дома ідзе вялікая нагрузка.

### Не клюе!

У вёсцы Рабунь на правадах аднаго з дамоў інспектары выявілі вялікую нагрузку. Адразу паглядзелі на комін, і адзін з іх сказаў: "Ага, комін жа замецены! Хутчэй за ўсё, карыстаюцца электрычным абагравальнікам!"

Пайшлі мы да гаспадара дома. А ён не адчыняе! Стукалі, стукалі, не адчыняе і ўсё тут. Інспектары падумалі, што гаспадар баіцца адчыняць дзверы, каб не атрымаць штраф. Таму вырашылі заехаць да яго праз паўгадзіны.

Пакуль мы ездзілі і вымяралі нагрузку на правадах у іншай вёсцы, якраз прайшла гадзіна. І мы з нецярпеннем вяртаемся ў Рабунь.

Кіроўца спецыяльна не пад'язджае да самага дома, каб баязлівы гаспадар не заўважыў нашу машыну. Я разам з інспектарамі таксама ўпэўнена іду да гэтага ж дома з замеценым комінам. І толькі мы падышлі бліжэй да дзвярэй, аж бачым – вісіць ужо замок. Вось так і сарвалася наша рыбка з кручка!

### Прыехалі дадому з уловам!

Засмучаныя ад таго, што не выявілі крадзеж, паехалі ў вёску Несцеркі. Па дарозе падвезлі маладога хлопца, якому якраз трэба было ў гэту вёску.

Высадзілі яго ля самага дома і паехалі мераць нагрузку на трансфарматарную падстанцыю. Бачым, што нешта не тое, нагрузка занадта вялікая.

Пайшлі закідваць "вуду" на правады. На адной лініі электраперадач няма нагрузкі, на другой таксама няма. Трэці раз мераем – глядзім, а на правадах да таго дома, куды мы падвезлі хлопца, накід вісіць.

Гэты накід дазваляе напрамую праграваць хлеў. Пайшлі да хлява. Гаспадар, а гэта бацька таго маладзёна, якога мы падвозілі, прыйшоў і пачаў апраўдвацца, што, маўляў, перадавалі моцныя маразы, і стала шкада агароднінны. І ён, каб яна не змерзла, пры дапамозе інфрачырвонай лямпачкі праграваў хлеў.

Давялося складаць акт. Як толькі інспектар узяў паперу і пачаў пісаць, хлопец не разгубіўся і паклікаў мяне. Відаць, хацеў дамовіцца, каб мы не складалі акт. Ды ў яго нічога не атрымалася.

Рыбка злоўленая. Акт складзены. Памер штрафу яшчэ невядомы.

Вось такая праца ў інспектараў энерганагляду – як на рыбалцы.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

■ **У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ**

## Недабудаваную ферму ўвялі ў эксплуатацыю

**ВІЛЕЙКА. Паводле вынікаў праверкі камунальнага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Вязынскае-агра" Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю выявіў шэраг парушэнняў.**

Сярод іх – парушэнні бюджэтнага, прыродаахоўнага, бухгалтарскага заканадаўстваў. Да таго ж, несвоечасова выплачвалася зарплата.

Прадпрыемства сарвала летась увод у эксплуатацыю малочнатаварнай фермы "Ясьманаўцы", на якой праводзілі рэканструкцыю. Дальна-малочны блок на стадыі будаўніцтва: не завершаныя сцены, дах, не ўстаўленыя дзверы, не ўмантаванае абсталяванне, не закончаныя сантэхнічныя работы і не забяспечанае ацяпленне.

Аднак, паводле акта ўводу, гэта не перашкаджала аб'ект рэканструкцыі прыняць у эксплуатацыю. Толькі пасля ўмяшальніцтва кантралёраў у дакументацыі адлюстравалі рэальнае становішча спраў.

Набытыя будаўнічыя матэрыялы для рэканструкцыі гэтага аб'екта за кошт бюджэтных сродкаў выкарыстаны не па мэтавым прызначэнні. Напрыклад, набытую арматуру за 9,2 мільёна рублёў выкарысталі не на рэканструкцыю малочнатаварнай фермы "Ясьманаўцы", а на будаўніцтва фундамента пад зернесушыльны комплекс.

Работнікам прадпрыемства зарплату выплачваюць несвоечасова. У прыватнасці, грошы за кастрычнік 2012 года выдалі на тыдзень пазней.

"Вязынскае-агра" парушыла Закон "Аб абыходжанні з адходамі": прадпрыемства не вядзе ўлік адходаў вытворчасці. Парушае і патрабаванне Воднага кодэкса – не забяспечвае першасны ўлік узятай вады з падземных крыніц.

З-за перарасходу кармоў летась за 11 месяцаў прадпрыемства недаатрымала больш за 360 мільёнаў рублёў выручкі. У выніку страты толькі ад рэалізацыі буйной рагатай жывёлы большыя за 190 мільёнаў рублёў пры рэнтабельнасці мінус 19,1%.

Па выніках праверкі за дапушчаныя парушэнні "Вязынскае-агра" прыцягнутае да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу больш чым на 14 мільёнаў рублёў. Дзве службовыя асобы аштрафаваныя на два мільёны рублёў, да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнутыя чатыры службовыя асобы.

**Паводле матэрыялаў Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

■ **ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ**

## Правялі дзень бяспечнага дарожнага руху

**МАЛАДЗЕЧНА. У пятніцу, 25 студзеня, дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці правяла адзіны дзень бяспечнага дарожнага руху пад дэвізам "Дарога памылак не даруе".**

Падчас акцыі выявілі 68 парушэнняў, сярод якіх дзевяць ДТЗ, два абгоны, а таксама парушэнні правіл дарожнага руху пешаходамі і іншыя.

У мэтах акцыі была прафілактыка ДТЗ з цяжкімі наступствамі.

Асаблівую ўвагу звярталі на асаблівасці транспартных сродкаў зімой, выкарыстоўванне рамянёў бяспекі, дзіцячых крэсел падчас перавозкі дзяцей.

Паводле статыстыкі, большасць ДТЗ адбываецца з-за неабдуманых паводзінаў, зухаватасці за рулём, няўважлівасці, п'янства, рэзкіх манеўраў, непавагі да іншых удзельнікаў дарожнага руху.

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

■ **СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ**

## Шукаюць сведкаў аварыі, у якой пацярпела цяжарная

**МАЛАДЗЕЧНА. Следчы камітэт шукае сведкаў і відавочцаў аварыі, якая здарылася 7 студзеня 2011 года каля 10.20 дня.**

Аварыя адбылася на 46-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Маладзечна-Нарач, непадалёк ад моста перад паваротам на вёску Дзікшняны.

Тады сутыкнуліся дзве машыны: "Опель-Вектра" (рэгістрацыйны знак 3655МВВ, 1993 года, седан, перламутрава-залацістага колеру) і "Фіят-Пунта" (рэгістрацыйны знак 9085ЕВ-5, 1996 года, хэтчбэк, колеру зялёны металік).

У выніку аварыі пацярпела цяжарная жанчына, якая ехала ў "Фіяце".

Пераканаўча просім відавочцаў аварыі патэлефанаваць па нумары **8(029) 708-29-95** ці **8(0176) 77-10-89** ад 9 да 18 гадзін у рабочыя дні. Следчы **Віктар Вікенцьевіч Зяневіч**.

## Следчы камітэт прыме грамадзян

**МАЛАДЗЕЧНА. У чацвер, 14 лютага, ад 11 да 13 гадзін будзе праводзіць выязны прыём грамадзян намеснік начальніка Упраўлення Следчага камітэта Беларусі па Мінскай вобласці Аляксей Сяргеевіч Сычоў.**

Прыём будзе праводзіцца ў будынку Маладзечанскага райаддзела міліцыі па адрасе: *Маладзечна, вуліца Галіцкага, 23, каб. 205.*

Папярэдні запіс па тэлефоне **8(0176) 75-10-48.**

**Паводле паведамлення Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта.**

АДУКАЦЫЯ

# Камфорт дзяцей – клопат і бацькоў, і садка



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

На прагулцы выхаванцы старэйшай групы ясляў-сада №3 Мядзела разам з выхавальніцай Марынай Малько.

**У адным з садкоў Маладзечна ў канцы студзеня хтосьці з бацькоў паскардзіўся ў аддзел адукацыі на няню.**

– Нібы наша няня Віка крыўдзіць дзяцей. Ды чаго толькі не сказалі! – распавядае мама аднаго з выхаванцаў гэтай няні. – Нас склікалі на бацькоўскі сход. Мы ўсе ў шоку! Ні ў кога ніколі не было заўваг ні да няні, ні да выхавальнікаў. Дзеткі нашы зусім маленькія, ясельная група, і яны яе так любяць!

Няня пасля такіх прэтэнзій напісала заяву на звальненне. А большасць бацькоў вельмі хацела, каб яна засталася і гатовыя патрымліваць яе. Бацькі мяркуюць, што скаржнік мае асабістую непрыязнасць да няні і таму хацеў ёй нашкодзіць.

## Бацькам таксама могуць зрабіць заўвагу

– З-за гэтага выпадку нікога не звальнялі з працы, – кажа **Наталля Сідарэнка**, галоўны спецыяліст сектара арганізацыйна-педагагічнай работы і дашкольнай адукацыі Маладзечанскага райвыканкама. – Няня працягвае працаваць у садку. Па ўсіх пытаннях, якія толькі могуць узнікнуць, бацькі павінны адразу звяртацца да загадчыцы дзіцячага садка. Не трэба хваляваццa, што заўвагі неяк паўплываюць на стаўленне выхавальнікаў да дзіцяці: чалавечыя адносіны гэта адно, а прафесійныя абавязкі – зусім іншае. Калі праблема не вырашаецца на гэтым узроўні, тады ўжо можна звяртацца ў аддзел адукацыі. Але такое ў нашай практыцы сустракаецца вельмі рэдка.

Камунікацыя паміж супрацоўнікамі і бацькамі – абавязковая частка працы садкоў. За дзяцей адказныя і бацькі, і выхавальнікі.

У прыватнасці, выхавальнікі і няні таксама маюць права рабіць рэкамендацыі і заўвагі бацьку ці маці. Напрыклад, калі чуюць іх лаянку.

Калі здараецца такое, што бацькі прыходзяць па дзіця ў нецвярозым стане, выхавальнікі наогул не маюць права аддаваць ім дачку ці сына. У такім выпадку кіраўніцтва звязваецца з органамі апякунства, і яны вырашаюць праблему разам.

Зоя ХРУЦКАЯ,
Аляксандра ПАРАХНЯ.

## “Няхай выхавальнік звяртае больш увагі на дзяцей, чым на іх рэчы”

На пытанні пра адносіны бацькоў і садка адказала загадчыца астравецкага ясляў-садка №2 **Алена Кананoвіч**.

**– Ці могуць бацькі разлічваць, што, калі, напрыклад, дзіця атрымае драпіну ці сіняк, ім патлумачаць прычыну?**

– Безумоўна! Як жа інакай? У нас кожную раніцу выхавальнік здае мне справаздачу, у якой пазначае, якія дзеці прысутнічаюць, а якія не.

Калі дзіцяці няма ў садку тры дні, то тэлефануем бацькам ці наведваем іх, каб даведацца, ці ўсё ў парадку.

Пры любой драпіне ці сіняку выхавальнік адразу паведамляе мне і медсястры, каб яна апрацавала, калі трэба. Тут жа звяртаемся да бацькоў. Калі гэта штосьці сур'ёзнае, прапануем забраць дзіця, каб паназіраць за ім дома ці нават звярнуцца да доктара.

**– Ці адказныя выхавальнікі за згубленыя ці папсаваныя рэчы?**

– У службовых абавязках выхавальнікаў нашага садка такой адказнасці няма. Мы просім бацькоў, каб сваім дзецям не давалі ў садок дарагія цацкі, ці, скажам, залатыя ўпрыгожванні. Няхай лепш выхавальнік звяртае больш ўвагі на дзяцей.

**– Ці могуць выхавальнікі зрабіць заўвагу бацькам, калі тыя дапускаюць, напрыклад, грубыя словы з дзецьмі?**

– Так. Але толькі ў індывідуальным парадку.

**– У які час можна прыводзіць дзяцей, а калі лепш забіраць?**

– У групы дзеці збіраюцца ад 7.45, але заўсёды ёсць дзяжурны выхавальнік, да якога сына ці дачку можна прыводзіць ад 7.30.

Мы рабілі апытанне сярод бацькоў, які час для іх зручны, і за задавальняе наш распарадак.

Забіраць дзяцей можна да 18.15. Многія бацькі забіраюць раней, асабліва тыя, у каго на працы зручны графік. Але мы раім не забіраць да 17 гадзін, таму што пасля сну ў нас пачынаюцца дадатковыя заняткі, гурткі. Таму лепей не парушаць рэжым.

**– Што абавязкова павінна быць у шафе дзіцяці?**

– Абутак на змену, як і ўсюды. У нас добрыя выхавальнікі па музыцы і фізічнай культуры, яны праводзяць цікавыя заняткі, таму раім прыносіць спартыўную форму, а таксама шорты і чэшкі.

Калі дзіця пацее, то просім прыносіць запасную майку, каб адзець яе пасля сну. Для ясельных дзетак адзенне на змену абавязковае.

Вядома, у кожнага павінна быць свая расчоска, якая захоўваецца ў футарале. Пасля сну дзеткам трэба прывесці сябе ў парадак.

**– Як бацькі могуць удзельнічаць у жыцці садка?**

– Калі мы просім бацькоў паўдзельнічаць у афармленні садка ці падрыхтаваць навагоднія касцюмы, то нам ніколі не адмаўляюць, заўсёды ўдзельнічаюць.

Мы пастаянна абнаўляем выставу малюнкаў і падпісваем, якой сям'і гэты малюнак. Да выставы, якую мы сёлета рыхтавалі да Дня маці, бацькі разам з дзецьмі рабілі вырабы, якія прынасілі потым у садок. Што яны толькі не рабілі!

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці давяраеце вы выхавальнікам?



**Алена Стрэж, музейны работнік, Вілейка:**

– Давяраю. Мая дачка Аляксандра хадзіла ў садок №12 у Вілейцы. У яе была выхавальніца Людміла Іванаўна Галко. Яна была для дачкі як другая мама. Прайшло шэсць год. Але яна і сёння, калі сустрэне Сашу, заўсёды распытае, як справы, як вучоба і паводзіны ў школе.



**Вольга Тункевіч, пенсіянерка, Мядзел:**

– Давяраю. Праўда, сваіх дзяцей у садок вадзіць не давялося, бо жыла ў той час у вёсцы. Але мая ўнучка Віка наведвае яслі-сад №3 у Мядзеле. Бывае, што і я прыводжу яе, забіраю. За ўнучку я спакойная: тут яна дагледжаная, праводзяцца карысныя заняткі.



**Марына Труханoвіч, бібліёграф, Мядзел:**

– Вядома, давяраю – як сабе. Малодшую дачку Вольгу ваджу ў яслі-сад №2 Мядзела. Ведаю, што там яна будзе пакормленая, дагледжаная і ўсё з ёй будзе ў парадку. Калі, напрыклад, раптам у яе падымецца тэмпература, то мне абавязкова патэлефануюць. У нашай групе працуюць добрыя, спагадлівыя людзі.



**Алена Каралькова, прадавец, Маладзечна:**

– У мяне ў дзяцінстве былі добрыя выхавальнікі. І дзіцяці майму таксама пашанцавала з выхавальніцай. Таму адносіны да іх у мяне самыя найлепшыя. Я нават старалася адпавядаць выхавальніцы, якая была ў майго дзіцяці.



**Настасся Бадак, маладая маці, Маладзечна:**

– Цяпер маладыя выхавальнікі клапоцяцца больш пра сябе, чым пра сваіх падапечных. Бывае, ідзеш міма дзіцячага садка, дзеці на пляцоўцы гуляюць. А выхавальніца ў той час па тэлефоне размаўляе і не сочыць за дзецьмі. У майго сына будзе самая лепшая выхавальніца, якой я давяраю на 200%, – гэта бабуля.



**Таццяна Юцко, касір, Маладзечна:**

– Я без усялякіх праблем заводжу дзіця ў садок. Яму выхавальніца вельмі падабаецца. Калі ён знаходзіцца ў садку – я спакойная.



**Наталля Ігнатовіч, часова не працуе, Маладзечна:**

– Малодшая дачка ў мяне кожны дзень просіцца ў садок. Ёй там падабаецца, яны займаюцца ў гуртках, неяк развіваюцца. А вось старэйшая ходзіць у сад са слязьмі на вачах.

Падрыхтавалі Алесь ВЫСОЦКІ,
Вольга ЮРКЕВІЧ.

• Футарал для цэлай скрыпкі. Т. (8-029) 6927353.*

**ЖЫВЁЛУ**

• Каня, буйную рагатую жывёлу і іншыя віды дамашняй жывёлы, дорага. ІП Кевра А.С. УНП 590818581. Т. (8-044) 4846590, (8-029) 3939256.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 765542, (8-029) 6564854.*

• **СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ ЛЮБЫ! МАНЕТУ, МЕДАЛЬ, СТАТУЭТКУ. Т. (8-029) 7764214.***

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Гадзіннік насценны з боем, можна няспраўны, Дзяржынск. Т. (8-029) 5621630.

• Балон кіслародны вуглекіслотны. Т. (8-029) 8466093.*

• Лодку дзюралевую ў любым стане, снасці. Т. (8-0176) 706577.*

• Скуркі куніцы, чарнабуркі, пясца. Т. (8-029) 8552646.*

**ЗГУБЛЕНА**

• Згублены мужчынскі партманет з дакументамі на імя Леановіча Аляксандра Іванавіча просьба вярнуць за ўзнагароджанне. Т. (8-029) 3884373.

**ПРАЦА**

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• ДУА "Гарадзілаўская сярэдняя школа" патрабуецца вадзіцель катэгорыі Д для перавозкі дзяцей. УНП 601058167. Т. (8-0176) 725372, (8-029) 1295099.*

• Аддзелачнік шукае работу (шпалеры, тынкоўка, шпаклёўка, адкосы, падлога, уцяпленне, гіпсакардон і інш.) Т. (8-029) 2775694.

• Аддзелачнік шукае работу (плітка, гіпсакардон, тынкоўка, шпаклёўка, сцяжка і г.д.), вопыт, якасць. Т. МТС (8-029) 8927435, Вэлком (8-044) 7232473.

**ПАТРАБУЮЦЦА**

• Прадавец рыбы на рынак райспажыўтаварыства ў Маладзечне (магчыма пенсійнага ўзросту). ЧТУП Каток". УНП 690624476. Т. (8-029) 6432425.

• Кафэ "Эліта" патрабуецца повар, афіцыянт, Вілейка. УНП 690250951. Т. (8-0176) 760373, (8-029) 5065230.

• Сялянскай гаспадарцы "Вулей" (Вілейскі р-н) патрабуецца механізатар з вопытам работы ў сельгасвытворчасці, аплата высокая. Без прадастаўлення жылля. Пасведчанне аб дзярж.рэг. №503 ад 2002/07/23 г. УНП 600008888. Т. (8-029) 9864742.

• Тэрмаапрацоўшчыца. ПУП "АсcольМода". Т. МТС (8-029) 7070569, 7547189, 7612222.*

• Шукаю работу аддзелачніка, выконваю работы: шпаклёўка, афарбоўка, гіпсакардон, ламінат. Сяргей. Т. Вэлком (8-029) 3747358, МТС (8-029) 5316325.*

• **НАЙМУ БРЫГАДУ ДЛЯ ЎНУТРАНАЙ АДДЗЕЛКІ: ПЛІТКА НА ПАДЛОГУ, ТЫНКОЎКА, ПАДВЯСНАЯ СТОЛЬ І Г.Д. Т. (8-029) 6515383.***

• **НАЙМУ ДОБРУЮ БРЫГАДУ ДЛЯ БУДАЎНІЦТВА 2-х КАТЭДЖАЎ У РАГАЗАХ (ПАД КЛЮЧ). ДОРАГА. Т. (8-029) 6515383.***

■ **ЗАГС**

## На Вілейшчыне называлі дзяцей Спартаком і Міладай

**ВІЛЕЙКА.** У 2012 годзе ў Вілейскім раёне нарадзілася 442 дзіцяці. З іх 225 хлопчыкаў і 217 дзяўчынак.

Самае папулярнае імя для хлопчыкаў – Яўген (так назвалі 15 немаўлят). Па 13 летась з'явілася Максімаў і Арцёмаў, па 11 – Ільёў, Ягораў, Даніілаў і Аляксеяў. Што тычыцца рэдкіх імёнаў, то па адным хлопчыку назвалі ў раёне Спартак, Радаслаў, Клім, Яфім, Тыгран.

Калі казаць пра дзяўчат, то найбольш з'явілася на свет Дар'яў (14), Палін (12), Ксеній і Анастасій (па 11). Называлі бацькі сваіх нашчадкаў такімі рэдкімі імёнамі, як Сабрына, Ніколь, Мілада, Аўрэлія.

Пра ўсё гэта паведаміла начальнік аддзела ЗАГС райвыканкама **Вольга Мароз.**

## Найпапулярнейшыя імёны – Анастасія, Максім і Уладзіслаў

**МЯДЗЕЛ.** У 2012 годзе ў Мядзельскім раёне нарадзілася 133 хлопчыкі.

Называючы іх, выкарысталі 40 імёнаў, паведаміла начальнік аддзела ЗАГС Вілейскага райвыканкама **Галіна Калмук.** Найчасцей хлопчыкаў называлі Максімамі і Уладзіславамі – па 10. Па 8 прыбавілася Мікітаў і Дзмітрыяў, 7 – Арсеніяў.

Дзяўчат на Мядзельшчыне за год з'явілася на свет крыху больш – 137. Бацькі прыгажунь праявілі больш фантазіі ў выбары імёнаў і скарысталі іх 50. Па-за канкурэнцыяй было імя Анастасія. Яго атрымалі 11 маленькіх жыхарак раёна. Па 9 з'явілася Ксеній і Дар'яў, па 8 – Палін. Сярод рэдкіх імёнаў, якімі называлі дзяўчынак, – Мікаэла, Мішэль, Евангеліна, Дамініка.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ГЭТА ЦІКАВА

# Вяз, з вышыні якога бачныя адразу тры гарады

*Заканчэнне. Пачатак у №№2, 3.*

**МАЛАДЗЕЧНА. У Верхніх Талуях ля Маркава сціпла расце адно з самых старых дрэў Павілля – вяз, з вышыні якога адразу бачныя Маладзечна, Вілейка і Смаргонь.**

Праз Віленскі шлях праязджала шмат не толькі вайскоўцаў, але і такіх вядомых асоб, як Сымон Будны, Тарас Шаўчэнка, Міхал Агінскі, Мікалай Гогаль, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Уладзіслаў Сыракомля, Тамаш Зан, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас, Міхась Чарот, Максім Багдановіч, Браніслаў Тарашкевіч, Максім Гарэцкі, Ян Судрабкалн, Пётр Цвірка, Станіслаў Манюшка, скрыпач Антон Концкі, гісторык Міхаіл Балінскі, італьянскі архітэктар Карла Спампані, філосаф Павел Монтвіл і іншыя.

Уявіце толькі сабе, што іх усіх бачыў верхнеталуйскі вяз.

## Валадары вяза

Хто ж валодаў зямлёй і чыёй уласнасцю быў вяз верхнеталуйскі ля Маркава?

Талуі з самага пачатку свайго існавання ўваходзілі ў склад Маркаўскага старосства. Землямі найчасцей валодалі ўпраўляючыя. Першым уладаром Маркава яшчэ ў 15 стагоддзі былі магнаты Монтыгірдовічы, потым каралеўскі сакратар і пісар ВКЛ Мікалай Паўлавіч Нарушэвіч. Кіравалі потым маркаўскімі землямі Іван Яцкавіч Уладыка, Ждан Вайтовіч, Васіль Храбтовіч. У 1501 годзе наменнікам і ўладаром маркаўскіх зямель і вяза стаў Ян Радзівіл, сын Мікалая Радзівіла Старога.

У 1518 годзе Маркаўскі двор купляе ваявода Навагрудскі Ян Яновіч. Самым страшным быў для Маркава сёмы год Лівонскай вайны, калі Маркава было практычна разбуранае і спаленае ворагамі, але вяз ацалеў. У 1557 Маркава лічылася ў разрадзе каралеўскіх воласцей, і Маркаўскі двор плаціў падаткі вялікаму князю сумесна з Мядзельскім дваром. Кіраваў абодвума дварамі Леў Іванавіч Роскій.

У архівах захавалася рашэнне караля ад 21 верасня 1561 года, дзе пералічваюцца памеры падатку, сярод якіх – падатак у выглядзе гусей і курэй для каралеўскай кухні.

У 1575 годзе правa на кіраванне маркаўскімі і мядзельскімі землямі атрымаў канцлер і гетман Вялікага Княства Літоўскага, Віленскі ваявода Леў Сапега (1557-1633). Пасля наменнікамі Маркаўскага старосства былі сыны Льва Сапегі – Станіслаў, Кшыштаф і апошні з сыноў Ян Казімір Леў.

Потым Маркаўскае старосства да 1635 года стала казённым, пакуль кароль Уладзіслаў Ваза Чацверты за ратныя заслугі ў Лівонскай вайне не падарыў Маркаўскі двор смаленскаму ваяводу Аляксандру Яновічу Корвін-Гасеўскаму, які выконваў і абавязкі пасла ў Маскве. Пасля старосствам валодаў пісар скарбны Ян Эйдзетавіч, а пасля яно перайшло да Пацаў і афармляецца пад назвай "Вілейскае".

У 1670 годзе князь Аляксей Валовіч ахвяраваў Маркаўскай царкве чатыры валокі зямлі.

Валодалі вязам і Маркаўскім старосствам прадстаўнікі шляхецкага роду "Пелікан" Коцелы. Міхаіл Коцел сумяшчаў пасады Маркаўскага старосты і падкаморыя Ашмянскага, а потым стаў яшчэ Віцебскім і Трокскім кашталянам і ваяводам. Пры яго кіраванні найбольшага росквіту дасягнула яго фамільная рэзідэнцыя ў Беніцы. У той час яна мела 107 дамоў. У Беніцы пры двары трымалі ўласную варту, мелі драгунаў і ўланаў.

Пасля яго смерці ў 1722 годзе Маркаўскае старосства пераходзіць у рукі Інфлянцкага кашталяна Яна Немяровіча-Шчыта.

У 1740 годзе на сродкі пана Яна Шчыта і яго жонкі Барбары пабудавалі касцёл і асвяцілі ў гонар архангела Міхаіла. У 1869 годзе ўлады яго перадалі праваслаўным, пераасвяцілі ў гонар Стрэчання Госпада.

Потым, паводле прывілею караля Станіслава Аўгуста, Маркаўскае старосства перайшло ў пажыццёвае ўладанне Тадэвуша Коцела і яго жонкі Ганны, ураджэнкі Тышкевічаў.

## Вызваляліся ад рабства

Быў талуйскі вяз з-пад Маркава сведкам пакут тутэйшых людзей і пры царызме. Пасля 1795 года дзяржаўная мяжа паміж Маркавам і Талуямі была скасаваная, уся зямля былога Маркаўскага, а потым Вілейскага старосства ўвайшла ў Расейскую імперыю. Маркава захавала статус мястэчка, але расейскія ўлады спрабавалі пазбавіць маркаўцаў звання мяшчан, якое давала пэўныя свабоды, апусціўшы да ўзроўню прыгонных сялян, якія былі як рабы.

Ужо ў 1795 годзе адміністратар старосства Падлескі прадаў у Мінскую казённую палату ўсіх жыхароў Маркава, абазначыў іх у акце здзелкі як прыгонных сялян. Маркаўцы ж звярнуліся ў суд і толькі ў 1807 годзе вялейскі земскі павятовы суд пастанавіў "вольность жителей местечка Маркова с крестьянской реквизии выключить и до города Вилейки в склад засчитать". Тады на маркаўскай рыначнай плошчы быў павешаны набатны звон.

Прыцясненні маркаўцаў на гэтым не заканчваліся. Упраўляючы сядзібы паручнік Навакоўскі забараніў сялянам браць за ракой Нарач лес на дровы і будаўнічы матэрыял.

Потым уладаром зямель быў за ваенныя заслугі прызначаны расеец, ротмістр С.Клецкі. Гэты служака стварыў для тутэйшых увогуле невыносные жыццё. Забараніў хадзіць нават у маркаўскі лес, што расце якраз за Верхнімі Талуямі, якім яны карысталіся.

Каго ротмістр застане ў навакольнай пушчы, "таго грабілі неміласэрна, адбіралі сякеры, а часам і адзенне... Аднойчы прывязалі да дрэва ротмістравы паслугачы Грышку Каваля ды Рагуновіча (якраз верагодна да нашага вяза, бо дрэва павінна было быць тоўстым, каб прывязаць адразу абодвух, ды і гнуткімі, як лаза, галінкамі вяза лацвей карыстацца ў якасці розгаў) і моцна катавалі, білі бізунамі.

Аб гэтым выпадку мястачкоўцы напісалі скаргу – прашэнне – на імя Аляксандра І з просьбай заступніцтва ад нападкаў...

Той жа Клецкі выраšыў нахабна, без згоды маркаўцаў захапіць іх зямлю, за якую яны плацілі грошы царскай казне. Ён сабраў сваіх людзей, і яны пайшлі араць маркаўскія землі.

Сяляне ўсёй грамадой вырашылі высветліць, у чым справа. Клецкі не толькі не стаў гаварыць з людзьмі, а нават пачаў страляць па іх. Аднаго чалавека забіў, другога параніў. І тады сяляне схапілі ротмістра, абяззброілі і падалі скаргу ў Ашмянскі суд.

Восенню Клецкі загадаў свайму памочніку Яворскаму сабраць ураджай, які вырасцілі маркаўцы. Той так і зрабіў. Ротмістр за свае ўчынкі ніякага пакарання не панёс. Але не трэба думаць, што суд быў не аб'ектыўны толькі таму, што наменнікам стаў расейскі назначэнец.



Вяз у Верхніх Талуях гэтай зімой такі самы сведка падзей, як і некалькі стагоддзяў таму.

Фота Міхаіла МІХАЛЕВІЧА.

## Ліст да цара

Вяз з'яўляецца сведкам, ды і ў мясцовых людзей яшчэ засталіся ўспаміны, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне, калі маркаўцы яшчэ раз звярнуліся са скаргай да таго імператара. Толькі скардзіліся ўжо на тутэйшага пана Швайкоўскага.

Яны напісалі пісьмо цару, прасілі засцерагчы іх ад прыгнёту і здзекаванняў. Але не павезлі яго з нарочным, а адправілі поштай. Ды толькі мясцовы паштовы наглядчык быў насцярожаны і паведаміў пану. Швайкоўскі перахапіў пісьмо і схаваў яго. А жыхар з Маркава Шастоўскі, нешта робячы ў маёнтку ў пана, выпадкова знайшоў тое прашэнне і зноў перадаў сялянам.

Пісьмо дайшло куды трэба, пан уззлаваўся, вылічыў, хто мог скргзаці. Ён схапіў Шастоўскага і дванаццаць дзён катаваў яго – біў чым папала, у тым ліку і розгамі, пёк голае цела гарачым жалезам. Катаваў, катаваў, пакуль не забіў...

У 1873 годзе ў Маркаве ў мястэчку было адкрытае народнае вучылішча на 40 вучняў. У 1880 годзе ў мястэчку было 556 жыхароў, дзейнічалі дзве праваслаўныя царквы, багадзельня і заезны двор.

## Маркава сёння

На рубяжы 19-20 стагоддзяў у Маркаве налічвалася 765 жыхароў. Праводзіліся два мясцовыя фэсты: 9/22 мая на Святцеля і Цудатворца Мікалая, і 15/ 27 жніўня – на Успенне Святой Багародзіцы.

На 17 верасня 1939 года ў Маркаве жыло 973 жыхары, з 12 кастрычніка 1940 года ўтвораны Маркаўскі сельскі Савет. У 1999 годзе ў Маркаве жыло 865 жыхароў і мелася 285 хат.

Цяпер, у 2013 годзе, у Маркаве жывуць 703 жыхары. У Верхніх Талуях на зіму засталіся толькі чатыры чалавекі.

За гэтыя гады мянялася і знікала не толькі ўлада, але і вера. Мяняліся людзі, нават пушча, звяры і птушкі, а таксама рыба ў Гадзеі, Ушы і Вяллі.

Людзі перасталі трымацца сваёй зямлі. Як тая азіяцкая расліна з пустыні перакаці-поле, падаліся, хто куды.

Сярод перакаці-поля таксама ўзрасло шмат волатаў, але хіба можна іх параўнаць з нашым вязам.

## Мова, якая бярэ пачатак з санскрыту

Але было з жывога адно, што заставалася нязменным. Да апошніх трох-чатырох дзесяцігоддзяў на гэтых пагорках, пад шатамі вяза ля Маркава, жыла і заставалася стагоддзямі нязменнай сярод пакаленняў людзей толькі адна рэч – мясцовая ці, як казалі, тутэйшая, простая мова, якая вяла свой пачатак з тысячагадовай сівой даўніны, яшчэ ад загадкавага санскрыту, і захавала з таго санскрыту больш чым іншыя сучасныя мовы агульных каранёў у параўнанні са славянскімі і іншымі еўрапейскімі мовамі.

Потым яе змяніла трасянка, перш напалову з польскай мовай, потым з расейскай. Цяпер жа, на самай хвалі славы і волі тутэйшага народа, настаў незразумелы для вяза час – знікае, адміраe нават трасянка.

Амаль усе тутэйшыя людзі, дзякуючы якім у нейкай ступені і захаваўся патрыярх, саромеюцца гаварыць на сваёй роднай простай мове, моладзь не ведае яе. Знікае і вёска. Але ж нешта будзе.

Наш вяз цяпер зімуе. Ён чакае вясны, каб зноў і зноў заквітнець, каб руплівыя пчолкі апылялі кветачкі, каб паспела насенне і вылецела ў пару ў свет, каб зямля прыняла яго і яно ўкаранілася і дало ўсходы.

Вяз яшчэ пастаіць гадоў 100. За гэты час зменіцца пяць пакаленняў. На аднаўленне нашай мовы часу хопіць.

**Аўтар выказвае падзяку краязнаўцу Пятру Міхайлавічу Цыгалку, жыхарам Талуёў Івану Міхайлавічу Дурэйку, Маркава – Людміле Леанардаўне Асіповіч, Мікалаю Пяшко (айцу Мікалаю), Мікалаю Станіслававічу Ляшчынскаму, Веры Мікітаўне Дорах.**

**У артыкуле выкарастыныя матэрыялы кніг "Повязь часоў" Генадзя Каханоўскага, "Царква святой жываначальнай Тройцы" вёскі Маркава Мікалая Пешкі, даследаванне Анатоля Рогача, Станіслава Судніка.**

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ.**

ДА 150-ГОДДЗЯ ПАЎСТАННЯ ПАД КІРАЎНІЦТВАМ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

# Бой пад Уладыкамі

*Працяг. Пачатак у №4.*

**ВІЛЕЙКА. З успамінаў удзельніка паўстання 1863 года Эўгеніюша Кавальскага, апублікаваных у Вільні ў 1907 годзе**



**"Кастусь Каліноўскі" Кастуся Харашэвіча, мастака з Маладзечна, 1996 год.**

## Параза

Пачатая ў неспрыяльных умовах бітва пад Уладыкамі, нягледзячы на гераізм і пакутніцтва людзей, закончылася страшнай для нас паразай.

Патрапіўшы неспадзявана пад абстрэл, наш атрад, які ўжо пасля першых стрэлаў страціў камандзіра, адразу захістаўся і разбегся на ўсе бакі. Непрыяцель, якога прывялі з мястэчка Ільі мясцовыя сяляне адразу пасля нашага выхаду з лесу, разлічваў на большую сілу і адпор паўстанцаў, бо хаця напаў і акружыў нас знянацку, спачатку атакаваў асцярожна і, можна казаць, з пэўнай бояззю. Толькі пасля поўдня, калі нашы слабыя сілы былі раскрыты, камандзір расійскага войска палкоўнік Гал ударыў на ўсю моц.

Раптоўная атака адкінула паўстанцаў да бурлівай рэчкі. З-за перавагі сілы вымуштраванага і дасканала ў параўнанні з намі ўзброенага войска далейшая бойка нашай раскіданай жменькі з паляўнічай зброяй ў руках была немагчымая. Яшчэ хвіліна супраціўлення, і ўвесь атрад палёг бы на полі бою.

Пад націскам апошняй атакі паўстанцы былі сапхнутыя ў раку, а за ёй глыбокая пушча працягнула да няшчасных свае цёмныя рукі.

Зашумела і зачырванела адразу вада. На полі бою засталіся толькі раненыя і забітыя.

Бегучы разам з іншымі да ракі, я ўбачыў, як Алойзы Віткоўскі, пераскокваючы плот, зачапіўся буркай. І ў той самы момант блiснула над ім вастрыё штыха, і рука нейкага кадэта замахнулася ў пагрозлівым удары.

– Дзень добры, пане Самовіч, крыкнуў весела Алойзы, адскокваючы ўбок з эластычнасцю ката, сустракаліся мы на балях у Мінску, прыгадваю. Цяпер, бачу, хочаш крывава аднавіць наша знаёмства. Ну, добра! Паразмаўляем.

І заканчваючы на бягу зараджаць дубальтоўку, павярнуўся раптам да юнкера, што ляцеў услед, і, кланяючыся з салоннай галантнасцю, крыкнуў:

– Ужо гатовы, пане кадэту!

Пакуль той намерваўся прашыць Віткоўскага штыхом, Алойзы загнаў увесь зарад у грудзі і пабег далей.

Назіраючы за гэтай сцэнай, я ўжо дабег да ракі, калі раптам апынуўся акружаным купай салдатні. Бліснулі ў вачах штыхі, накіраваныя ў мае грудзі. Здалося, што б'е апошняя мая гадзіна. Аднак, можа, дзякуючы небу мой рэвальвер не падвёў. Паклаўшы трупам вялізнага бандзюгу, адным махам пераскочыў плот і ўваліўся ў ваду.

Толькі тут з жалем заўважыў адсутнасць маёй любімай дубальтоўкі, якую згубіў у гэтай барацьбе з жаўнерамі. Хутка маю ўвагу прыцягнуў Леапольд Асвянцімскі, які рыкаў у вадзе як лось у некалькіх метрах перада мной, тым самым служачы за цэль для салдацкіх стрэлаў.

Я крыкнуў яму, каб прылёг. Вада тут была яшчэ не вельмі плынная, таму мы маглі ляжаць пасярод рачнога трыснягу, пасоўваючыся наперад як шчупакі ў напрамку пушчы. Толькі яна магла нас уратаваць.

За намі, пастаўленая ў дзве шарэнгі, маскоўская пяхота прашыла бясконцым агнём нашых таварышаў, якія знаходзіліся пасярод ракі або плылі да супрацьлеглага берага. Нас відавочна лічылі страчанымі для іх, шкадуючы куль для тых, хто адплываў ад берага.

Пасоўваючыся да сярэдзіны ракі, заўважылі перад сабой семінарыста, які быў у нашым атрадзе. Ён плыў праз сілу, цягнучы за сабой параненага таварыша.

На нашых вачах куля дагнала апошняга. Толькі здрыгануўся і пайшоў на дно. Праз пару імгненняў зачырванела вада і вакол беднага семінарыста. Ён ускінуўся пару разоў уверх і знік у водных хвалях.

Мы ўрэшце апынуліся ў сферы абстрэлу. Град куль нас літаральна засыпаў, свішчучы ў паветры і ціўкаючы ў вадзе. Да гэтага мы перамяшчаліся па залітым вадой беразе ракі. Цяпер знаходзіліся на яе сярэдзіне.

Шырокая рака пад лёгкімі хвалямі, што блішчэлі пад сонцам, была пакрытая людскімі галовамі, пасярод якіх з'яўляліся чырвоныя плямы, муцячы серабрыстую чысціню вады. Час ад часу людская галава апускалася пад ваду і знікала ў яе глыбіні.

Тут і там узносіліся над паверхняй канвульсійна дрыготкія рукі або выцягнутыя ў роспачы далоні, клічучы да ратунку... Свіст куль мяшаўся з людскімі стогнамі, з крыкамі болю і словамі малітвы. Бледныя вусны параненых або тых, хто тануў, клікалі на дапамогу Бога...

Хтосьці ля мяне голасна крычаў: "Пад Тваю абарону!" Мільганула чупрына і залітыя крывёй вочы, а з іншага боку раздаўся ціхі стогн і светлы юнацкі твар знік у вадзе, пакідаючы пасля сябе крывавую пляму.

Ужо каля берага заўважылі Любавіцкага, які слабеў. Скочылі мы да яго і праз пару імгненняў былі за шырокім кустом алешыны, яшчэ па калені ў вадзе, але ўжо за ракой, над якой непрыяцельскія кулі сеялі смерць сярод нашых таварышаў.

Узрушэнне было такім моцным, што ўсе пачуцці нібы скамянелі ў грудзях. Сёння, калі гэта пішу, праз 40 гадоў, від той ракі, у каторай выгінаўся кветкай наш павет, пранікае да глыбіні душы і схіляецца галава ў глыбокай смутнай задуменнасці...

За кустом маскоўскі агонь нас не дасягаў, але, каб апынуцца ў лесе, мы павінны былі перабегчы праз яго лінію. Адразу вырашылі чакаць тут ночы. Аднак страшэнны холад у прамоклым адзенні выштурхнуў нас з часовага прыстанішча. Кінуліся мы з іменем Божым да лесу і, прабіраючыся па размоклым лузе, падаючы і зрываючыся, цэлыя, не параненыя, дасягнулі нарэшце лясной гушчыні.




**Помнік паўстанцам у Ілы, які не захаваўся да нашых дзён.**

**Пераклад з польскай – "РГ".**
**Копію ўспамінаў, якія захоўваліся ў краязнаўцы з Вілейкі Яўгена ПЕТРЫКЕВІЧА, перадаў рэдакцыі старшыня Вілейскага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Дзяніс КАНЕЦКІ.**

## КАЛЯНДАР

**550 гадоў** назад (1463) упершыню ў пісьмовых крыніцах згадваецца Новы Мядзел (цяпер мястэчка Мядзел) Мядзельскага раёна.

***

**540 гадоў** назад (1473) упершыню згадваюцца такія населеныя пункты, як Вязынь, Ілья, Селішча, Латыгаль, Урэчча Вілейскага раёна.

***

**520 гадоў** назад (1493) упершыню ў пісьмовых крыніцах згадваюцца Крывічы Мядзельскага раёна, Куранец Вілейскага раёна.

***

**1 лютага.** 150 гадоў пачатку паўстання 1863 года на Беларусі і Літве. Часовы правінцыяльны ўрад Літвы і Беларусі ў гэты дзень абнародаваў Маніфест.

***

**100 гадоў** з дня нараджэння **Сяргея Восіпавіча Прытыцкага** (1913-1971), дзяржаўнага і палітычнага дзеяча Беларусі, дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, аднаго з арганізатараў патрыятычнага падполля і партызанскага руху ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. Нейкі час працаваў першым сакратаром Маладзечанскага абкама КПБ. Яго імем у Маладзечна названая адна з вуліц, а таксама вуліцы ў Мінску, Гродне, Баранавічах, хімкамбінат у Гродне.

***

**100 гадоў** з дня нараджэння **Антона Алешкі**, беларускага пісьменніка.

***

**2 лютага.** 175 гадоў з дня нараджэння **Кастуся Каліноўскага** (1838-1864), рэвалюцыянера-дэмакрата, публіцыста, кіраўніка паўстання 1863–1864 гадоў на Беларусі і ў Літве.

***

**70 гадоў** з дня прыняцця (1943) Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб устанаўленні медаля "Партызану Айчыннай вайны" 1-й і 2-й ступеняў.

***

**3 лютага.** 650 гадоў (1363) з дня перамогі войск Вялікага Княства Літоўскага на чале з Альгердам над мангола-татарскімі войскамі.

***

**4 лютага.** 205 гадоў з дня нараджэння **Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча** (1808 – 1884), беларускага паэта, драматурга, тэатральнага дзеяча, класіка беларускай літаратуры. Пахаваны на могілках у Тупальшчыне (в. Падневічы, недалёка ад Люцынкі), цяпер Валожынскі раён.

***

**5 лютага.** 90 гадоў з дня нараджэння **Леаніда Шчамялёва** (1923), жывапісца, народнага мастака Беларусі.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

МЕДЫЦЫНА

# Інфекцыі ў сучасным свеце

**Для ўсяго чалавецтва інфекцыйныя хваробы – гэта пагроза нумар адзін. Актывізаваліся туберкулёз, шаленства, малярыя, пнеўманія, а новыя з'яўляюцца практычна кожны год.**



Калі пачынаецца грып, то самым лепшым сродкам засцярогі з'яўляецца маска.

Фота mn.ru

Хваробы 21 стагоддзя вывучаюцца ў спецыяльных лабараторыях. Згодна з вынікамі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, за апошняе стагоддзе было ўстаноўлена 40 новых небяспечных захворванняў і выяўлена больш за тысячу ўспышак эпідэмій.

## Вострыя рэспіраторныя інфекцыі

Яны сталі сусветнай праблемай. Кожны год у свеце рэгіструецца 1,5 мільярда выпадкаў захворвання. Іх выклікаюць больш за дзве сотні ўзбуджальнікаў.

Сярод вялікай групы гэтых інфекцый лідзіруюць вострыя рэспіраторныя вірусныя інфекцыі (ВРВІ). Яны складаюць каля 90% выпадкаў усіх вострых рэспіраторных захворванняў.

Галоўнымі ўзбуджальнікамі з'яўляюцца розныя вірусы, але шляхі заражэння, развіццё, цячэнне і клінічныя праяўленні хваробы падобныя.

## Грып

Вельмі сур'ёзная праблема на сённяшні дзень. Інфекцыя забірае жыцці людзей не толькі ў слабаразвітых краінах. Напрыклад, у ЗША за прайшоўшыя 25 эпідэміялагічных сезонаў смяротнасць ад грыпу і выкліканых ім пнеўманій склала ў сярэднім 20-21 тысячу чалавек штогод.

У свеце, па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, штогод падчас эпідэмій грыпу і падобных да яго захворванняў хварэюць ад трох да пяці мільёнаў чалавек, а паміраюць ад 250 да 500 тысяч.

Акрамя гэтага грып наносіць вялізныя эканамічныя страты. Разлікі экспертаў ЗША паказалі, што за апошнія гады эпідэміі грыпу абыходзяцца штогод у 71-167 мільярдаў долараў.

Важным фактарам распаўсюджвання інфекцыі ў нашы дні з'яўляюцца развіццё сучасных сродкаў транспарту, міжнародныя кантакты, міграцыя. Паколькі гэтым працэсам няма альтэрнатывы, то верагодна, што хуткасць распаўсюджвання грыпу і далей будзе расці.

Вядома ж, людзі ацэньваюць усю ступень небяспекі і аб'ядноўваюць свае сілы ў барацьбе з такой інфекцыяй. Сусветная арганізацыя аховы здароўя (СААЗ) стварыла спецыяльны камітэт па глабальным адсочванні за вірусамі грыпу, які абапіраецца ў сваёй рабоце на больш чым сто нацыянальных цэнтраў па грыпе ў 83 дзяржавах.

Інфармацыю аб цыркуляцыі вірусаў грыпу яны рэгулярна пасылаюць у міжнародныя цэнтры ў Лондане і ў Атланце (ЗША), а адтуль гэтак жа рэгулярна атрымліваюць звесткі аб распаўсюджванні тых ці іншых штамаў (чыстая культура вірусаў) інфекцыі ў розных рэгіёнах свету.

У лабараторыі навукова-даследчага інстытута эпідэміялогіі спецыялісты вядуць пастаянную работу па выяўленні і вывучэнні вірусаў, якія цыркулююць у нашай краіне. Калі знаходзяць нетыповыя, узбуджальнікаў якіх яшчэ не было да гэтага, то іх штамы з вялікай асцярожнасцю ў асобых кантэйнерах адпраўляюцца ў Лондан. Эксперты СААЗ вывучаюць іх, даюць рэкамендацыі па саставе грыпозных вакцын на пэўны сезон.

Узбуджальнікам самых масавых і небяспечных успышак грыпу з'яўляецца вірус грыпу тыпу А з яго трыма падтыпамі. Вiноўнікам "іспанкі" быў падтып А, які ў наш час абазначаецца як A(H1N1).

Вірус тыпу В выклікае менш буйныя эпідэміі, размах якіх ніколі не даходзіў да пандэмій – павальных эпідэмій, што ахопліваюць вялікія рэгіёны, цэлыя краіны.

Знойдзены і вірус грыпу тыпу С, які з'яўляецца узбуджальнікам спарадычных (не звязаных з эпідэміяй) захворванняў.

Пры пранікненні вірусу грыпу ў кроў і ўнутраныя органы адразу пагаршаецца самаадчуванне, нарастае запаленне слізістай дыхальных шляхоў і дыханне становіцца частым, з'яўляюцца насмарк, чханне, кашаль. Узнікае галаўны боль, патлівасць, праймаюць дрыжыкі, з'яўляецца ламота ў касцях і мышцах, узмацняецца агульная слабасць – сведчанне моцнага таксікозу.

Амерыканскія фізіёлагі падлічылі, што грып сярэдняй цяжкасці выклікае такую інтаксікацыю, якая можа каштаваць чалавеку аднаго года жыцця. Чым ніжэй імунітэт чалавека, тым актыўней яго атакуе вірус. Да таго ж грып адчыняе вароты для іншай хваробатворнай мікрафлоры, таму так часта сустракаюцца грыпозная і іншая інфекцыі.

Работа па папярэджанні грыпу ва ўсім свеце вядзецца вялізная. Вакцынацыя не вырашае гэтай праблемы, бо вірус надзелены ўнікальнай здольнасцю відазмяняцца пад уздзеяннем знешніх фактараў. Гэта дазваляе нас трымаць у пастаянным напружанні. Імунітэт пасля грыпу застаецца ў арганізме спецыфічны і на нядоўгі час.

У апошнія гады ўсё больш выяўляюць такі від, як A(H1N2) – гібрыд двух вядомых штамаў. З'явіліся нечаканыя спалучэнні і штамаў грыпу тыпу В.

## Высокапатагенны грып

Гэта вірусы грыпу тыпу А (H1N1) і тыпу А (H5N1) – раней "птушыны". Для нас грып – гэта хвароба дыхальных шляхоў, свайго роду заразная прастуда. Грып у птушак – гэта кішэчная інфекцыя, яны заражаюцца ёю з ежай. Асабліва захворваюць качкі, чайкі, іншыя птушкі, якія кормяцца ў вадзе і там жа спараджняюцца: у прэснай халоднай вадзе вірус месяцамі захоўвае жыццяздольнасць.

Як паказалі шматгадовыя даследаванні Інстытута вірусалогіі Расійскай акадэміі медыцынскіх навук, вадаплаўныя птушкі, якія гняздуюцца ў Сібіры і Арктыцы, проста набітыя вірусамі птушынага грыпу. У апошнія гады асабліва пераважалі ў іх штамы H5, у тым ліку і вядомы цяпер H5N1. Але птушкі хварэлі рэдка.

Сярод пакаленняў (а яны ў вірусаў змяняюцца нашмат хутчэй, чым у людзей і жывёл) патагеннасць узбуджальніка, які жыве ў птушак, увесь час зніжаецца – аж да поўнага знікнення ўсялякіх праяў хваробы. Але калі гэты "перавыхаваны Бармалей" сутыкнецца з новым для яго відам гаспадара (ці нават з незнаёмай папуляцыяй усё таго ж віду), ён зноў пачынае забіваць.

Людзі могуць заразіцца птушыным грыпам толькі ад хворых птушак, калі яны з'ядуць недастаткова праваранае ці прасмажанае мяса ці выпадкова праглынуць мікраскапічную пушынку ці луску са скуры.

Потым хвароба аказваецца ў тупіку, бо перадавацца паветрана-кропельным шляхам вірус птушынага грыпу не можа.

Пандэміі грыпу, выкліканыя вірусамі-мутантамі, супраць якіх у людзей няма імунітэту, узнікаюць 2-3 разы у 100 гадоў. Пандэмія грыпу была ў 1918–1919. Мяркуюць, што вірус "іспанкі" ўзнік у выніку перамешвання генаў вірусаў грыпу птушак і чалавека. У 1957–1958 гадах пандэмія "азіяцкага грыпу", выкліканая штамам H2N2. У 1968–1969 пандэмія "ганконгскага грыпу" – (H3N2).

## Грып тыпу А (H1N1)

У 2009 годзе ўспышка грыпу, які стаў вядомы як "свіны грып", была выкліканая новым вірусным падтыпам H1N1, які генетычна найбольш падобны да грыпу свінні.

Вірус можа перадавацца як ад свіней людзям, так і ад людзей свінням. Чалавек можа заразіцца пры блізкім знаходжанні з хворымі жывёламі, напрыклад, у загонах для свіней, на кірмашах. Вірус таксама перадаецца ад чалавека да чалавека паветрана-кропельным шляхам.

Па дадзеных Сусветнай аховы здароўя ў пачатку шляху гэтага грыпу па свеце (2009 год) зарэгістраваных 70 893 лабараторна пацверджаныя выпадкі хваробы, 311 – са смяротным зыходам. Чым больш вірус "гуляе" сярод успрымальных да яго арганізмаў, тым менш яго наступствы і цяжкасць праяўлення захворвання. Гады пасля 2009 пацвердзілі гэта правіла.

**Алена ВЯЖЭВІЧ,**
**доктар бактэрыёлаг мікрабіялагічнай лабараторыі Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

ТРАЎМАТЫЗМ

# Летам траўм значна больш

**АШМЯНЫ. Рэзкія перапады тэмпературы, галалёд, а таксама снег, ператвораны ў кашу, вельмі небяспечныя для людзей. Таму неабходна быць асцярожнымі пры хадзьбе.**

Ад пачатку зімы ніякага павышанага падзення і траўматызму ў Ашмянах няма.

– У нас на лёдзе падае не шмат людзей – кажа доктар-хірург Ашмянскай раённай бальніцы **Андрэй Хаванскі**. – Калі параўноўваць, то летам людзі атрымліваюць траўмаў у пяць разоў больш.

– Эпідэміі траўматызму няма, – працягвае з жартам хірург Андрэй. – Узімку больш падаюць, але не з-за таго, што слізка, а з-за бардзюраў або прыступак.

Ад 9 лістапада да 30 студзеня ў Ашмянах атрымалі траўму 96 дарослых і шэсць дзяцей. З іх – 42 пераломы.

За зімовы перыяд у ашмянскую бальніцу паступіў адзін чалавек з абмаражэннем і адзін – з пераахаладжэннем.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

# Грып! Што рабіць?

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й старонцы.*

## Трэба есці аскарбінкі

Пры ўсіх вірусных хваробах пажадана з'ядаць больш аскарбінавай кіслаты - гэта павышае імунітэт.

Але людзям з ныркачнай недастатковасцю неабходна абмяжоўваць іх.

Карысны для здароўя і экстракт пладоў шыпшыны, бо ў ім шмат вітамінаў. Не менш карысная кіслая капуста. Усё гэта варта ўжываць і дзецям, і дарослым.

## Фізкультура і здароўе

– Цяпер у людзей больш сядзячы лад жыцця, магчыма, з-за гэтага хварэюць часцей. А трэба больш рухацца і закаляцца. Зімой – лыжы, а летам – басейн, – распавядае настаўніца фізкультуры маладзечанка **Ірына Баранава.**

Фізічныя практыкаванні станоўча ўплываюць на працэсы ў арганізме, яны ўмацоўваюць здароўе. Таму чалавека з дзяцінства трэба прывучаць да фізічнай культуры.

– Сонейка, паветра і вада – вашы лепшыя сябры. Гэты дэвіз павінен суправаджаць не толькі фізкультурнікаў, але і кожнага чалавека, – раіць Ірына Баранава.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

# Крывічы – мястэчка майстроў

**МЯДЗЕЛ. Наведаемся ў Крывічы, што на Мядзельшчыне.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Нават у маразы крывічане не адмаўляюцца ад ровараў.

У мястэчка, якое прытулілася на рацэ Сэрвач, дзе жывуць таленавітыя майстры і спевакі.

На пачатак гэтага года ў Крывічах было 1270 жыхароў. Жанчын на сотню з лішкам больш, чым мужчын: 686 супраць 584. Пенсіянераў у мястэчку жыве амаль на дзве сотні больш, чым моладзі да 18 год: 384 і 185.

Тут дзейнічае дрэваапрацоўчы цэх "Сэрвач", таварыства "Пруднікіагра", участкі раённых службаў. За высокім плотам размешчанае спецыяльнае ПТВ №3 закрытага тыпу, дзе перавыхоўваюць юных правапарушальнікаў.

Крам у мястэчку восем. Тут нават колішні аўтапрыпынак перарабілі ў краму аўтазапчастак.

Усе важнейшыя ўстановы (сельсавет, школа, бальніца, Дом культуры) у Крывічах размешчаныя ўздоўж цэнтральнай вуліцы – 17 Верасня. Яна праходзіць праз усё мястэчка. На ёй месціцца царква і касцёл.

У Крывічах можна пабачыць некалькі помнікаў і абеліскаў. Ушанаваная памяць салдат Вялікай Айчыннай, яўрэяў, спаленых фашыстамі падчас вайны. А на адных з могілак захаваўся памятны абеліск польскім салдатам з надпісам "BOHATERSKIM OBROŃCOM OJCZYZNY 1918-1920".

### Здольныя Ходзькі

Крывічы вядомыя як радзіма грамадскага дзеяча, пісьменніка, драматурга, ганаровага члена Віленскага ўніверсітэта Яна Ходзькі (1777-1851) і яго сыноў. Ян Ходзька пісаў апавяданні, аповесці, успаміны і артыкулы па гісторыі Міншчыны, камедыі і трагедыі. Меў псеўданім Пан Ян са Свіслачы.

"Ад шлюбу з Кларай з Корсакаў меў шэсць сыноў, якія пакінулі значны след у гісторыі не толькі Беларусі, але і ўсяго свету", – піша краязнаўца з Мядзельшчыны **Іван Драўніцкі**.

Юзаф – вядомы геадэзіст і географ, Аляксандр – паэт, фальклярыст, усходазнаўца, Станіслаў Ігнацы -- хімік, прафесар, Уладзіслаў быў гранічным суддзёй і засядацелем суда Віленскага павета. Фелікс Напалеон падчас паўстання 1830-1831 гадоў быў кіраўніком паўстанцкага атрада ў Крывічах, потым узначальваў аб'яднаныя вілейска-дзісненскія сілы. Міхал Ян — удзельнік паўстання 1830-1831 гадоў, паэт, перакладчык.

Недарэмна мемуарыст Станіслаў Мараўскі напісаў пра сям'ю Ходзькаў: "Грэх сказаць, што дзе калі-небудзь быў Ходзька, то здольны. Дурня з гэтым імем я не ведаў".

Доктар філалагічных навук Францішак Сяліцкі прыводзіць апісанне Крывічоў Янам Ходзькам: "Распалажэнне Крывіч, кажа адзін з нашых географаў, узнёслае, адкрытае і мілае; паблізу двара знаходзіцца лясок. Ніжэй таго ляска сустракаюца сляды вялікага горада, брукаваных вуліц у два і тры рады брукаў, адных над другімі. Па-над ракой Сэрвач узвышаюцца ваенныя курганы, а ў рэчцы не раз адшуквалі розную старажытную зброю".

З цягам часу маёнтак прыйшоў у заняпад. На месцы, дзе ён стаяў, застаўся склеп. Захаваўся напамін пра Ходзькаў у касцёле: побач з алтаром знаходзіцца памятная дошка, якую ўстанавіў у памяць пра сваіх бацькоў Ян Ходзька.

– Мы ганарымся сваімі землякамі, – кажа настаўніца Крывіцкай школы-сада **Святлана Язневіч**. – Вось у падручніку геаграфіі за 10 клас узгадваецца геадэзіст Іосіф Ходзька. Дзеці рыхтуюць пра яго дадатковы матэрыял.

У кабінеце гісторыі і геаграфіі вывешаныя партрэты Ходзькаў, іх радавод, захоўваецца матэрыял пра вядомых землякоў.

### Крывіцкія майстры

На Мядзельшчыне Крывічы вылучаюцца колькасцю ўмельцаў: недарэмна ж тут больш за 10 год працуе райцэнтр народных рамёстваў.

Заўсёды цікавіла, чаму ў Крывічах так шмат таленавітых умельцаў. Неадночы дапытваўся пра гэта ў колішняга кіраўніка цэнтра народных рамёстваў **Рамана Шашы**, які цяпер кіруе клубам самадзейных майстроў народнай творчасці "Крывічы".

– Напэўна, гэта адбывалася стыхійна, – ён адказваў гэтак. – Хоць пасёлак невялікі, але не хапала працоўных месцаў, і людзі зараблялі на жыццё народнымі рамёствамі. Скажам, мой бацька займаўся кавальствам, тачэннем па дрэве. І побач з ім была цэлая пляяда майстроў-паплечнікаў: **Леанід Уладзіміравіч Шостак, Іван Уладзіміравіч Рагіня, Пётр Андрэевіч Забяяка,** сям'я **Чачураў**. Паміж імі існавала нейкая канкурэнцыя, кожны імкнуўся зрабіць як найлепей, прыдумаць нешта сваё. Так што, нам засталася толькі прымнажаць традыцыі крывіцкіх майстроў.

Цяпер цэнтрам кіруе **Уладзімір Хіхіч**.

– У нашым цэнтры могуць навучыць розным накірункам разьбы па дрэве, тачэнню па дрэве, лепцы з гліны, – расказвае ён. – Усяго займаюцца каля паўсотні чалавек. Ёсць сучасныя станкі, ёсць на чым рабіць, дзецям паказваць.

У цэнтры зробленая выставачная зала, дзе прадстаўленыя лепшыя ўзоры майстэрства крывіцкіх умельцаў, а таксама вырабы з конкурсу "Разьба зачараванне".

Па словах дырэктара, у бліжэйшых планах наладзіць выраб сувеніраў, якія будуць прадаваць у мядзельскім музеі, у к. п. Нарач (Купа).

**– Які ж самыя традыцыйныя крывіцкія сувеніры?**

– Лічу, што гэта вырабы з гліны і з карэльскай бярозы – чачоткі.

Сам Уладзімір Хіхіч працуе з дрэвам. Яго драўляныя скульптуры можна пабачыць не толькі ў цэнтры народных рамёстваў, але і ў школе, на некаторых падворках.

– Крывічы – месца для жыцця нармальнае: і школа, і Дом культуры ёсць, – разважае ён. – А галоўнае, прырода якая: рэчка, і лес кругом.

### Крывічы як асяродак культуры

У Мядзеле ведаюць: калі прыязджаюць артысты з Крывічоў, канцэрт будзе адметны. Спевакоў тут добрых хапае. Да таго ж у мястэчку арганізоўваюць розныя фестывалі. Раней гэта быў эстрадны конкурс для дзяцей – "Музычны лабірынт". Потым яго змяніў фестываль эстраднай песні "Шансон збірае сяброў". Выступаюць не толькі мясцовыя артысты, але і з розных куткоў раёна, Пастаў. Прыязджаюць таксама ўраджэнцы мястэчка, якія цяпер жывуць у Мінску і Маладзечне.

Ёсць у Крывічах хор з даўняй гісторыяй. Пазалетась святкавалі 30 год, як яму было прысвоенае званне "народны". Цяпер у хоры – 28 удзельнікаў.

– Людзі з задавальненнем прыходзяць спяваць, падтрымліваюць гонар мястэчка, – кажа мастацкі кіраўнік Дома культуры **Аляксандра Куцько**.

Ён працуе ў мясцовай культуры з 1981 года, ініцыятар многіх цікавых пачынанняў – тых жа фестываляў.

– Для мяне Крывічы – родны куток, за які хвараю і душой, і сэрцам, – кажа Аляксандр Куцько. – На жаль, з часам людзей усё менш становіцца, моладзь стараецца ў гарады з'ехаць. Але тыя, хто прайшоў праз нашу самадзейнасць, заўсёды – толькі патэлефануй – прыязджаюць, каб паўдзельнічаць у канцэртах, фестывалях.

**– Як удаецца мястэчку ладзіць фестывалі?**

– Варта толькі пачаць. І тады людзі ўцягваюцца, жывуць гэтым фестывалем, рыхтуюць да яго песні. Ёсць пастаянны спонсар – мясцовы прадпрымальнік **Руслан Станкевіч**, які і сам спявае.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Адна з драўляных скульптур Уладзіміра Хіхіча.

## З гісторыі мястэчка Крывічы

Упершыню Крывічы ўпамінаюцца каля 1493 года ў актах Метрыкі ВКЛ як шляхецкая ўласнасць, чытаем у гісторыка-дакументальнай хроніцы "Памяць" Мядзельскага раёна. Было "гняздом" роду Кішкаў, у далейшым часткі належалі Укольскім, Ходзькам, Любанскім і Швыкоўскім. 23 снежня 1776 года ў адпаведнасці з прывілеем польскага караля Станіслава Аўгуста Крывічы названы мястэчкам у Ашмянскім павеце Віленскага ваяводства. З 1793 года Крывічы ў складзе Расійскай імперыі, мястэчка было цэнтрам воласці Вілейскага павета.

У 1860 годзе налічвалася 55 двароў, 485 душ. У 1886 годзе ў Крывічах знаходзілася валаснае праўленне, царква, капліца, касцёл, багадзельня, тры крамы, тры заезныя дамы, карчма, школа, народнае вучылішча. У 1904 годзе – 711 жыхароў. За польскім часам Крывічы былі цэнтрам гміны Вілейскага павета Віленскага ваяводства. У мястэчку працавала раённая ўправа, паліцэйскі ўчастак, касцёл, чатыры млыны, бальніца, пошта, аптэка; кожную сераду праводзіліся кірмашы.

З 1939 года – у БССР. З 1940 года Крывічы сталі цэнтрам раёна адразу Вілейскай вобласці, а потым Маладзечанскай. У 1962 годзе мястэчка ўвайшло ў склад Мядзельскага раёна.

Галоўныя славутасці мястэчка – касцёл і царква. Мураваны касцёл Святога апостала Андрэя і кляштар трынітарыяў быў пабудаваны ў канцы 18 стагоддзя. Каля 1640 года ў Крывічах была ўзведзеная Свята-Троіцкая царква, у 1659 годзе яе разрабавалі маскоўскія войскі. У 1887 пабудавалі новую царкву.

БАРАЦЬБА ДЗЮДО

# З'явіліся новыя чэмпіёны

**СМАРГОНЬ. Адкрыты чэмпіянат Рэспублікі Беларусь прайшоў у алімпійскім спартыўным комплексе "Стайкі" пад Мінскам. Удзел прынялі некаторыя моцныя расійскія спартсмены, таксама былі прадстаўнікі іншых краін СНД.**

Прыемна паведаміць, што пераможцамі ў вагавых катэгорыях да 73 кілаграмаў і звыш 100 кілаграмаў сталі адпаведна **Аляксей Раманчык** і **Аляксандр Вахавяк**. Яны пачыналі свае заняткі барацьбой дзюдо ў смаргонскай спартыўнай школе.

У найцяжэйшай, самай прэстыжнай катэгорыі сабраліся 14 удзельнікаў. Наш зямляк, якому 25 гадоў, правёў тры паядынкі і ва ўсіх атрымаў перамогі датэрмінова. У чвэрцьфінале за 2 хвіліны і 20 секунд быў пераможаны Віктар Мядзведзеў, расіянін з Маскоўскай вобласці. Паўфінальная схватка завяршылася праз 40 секунд. Тут прайграў мінчанін Дзяніс Пархамук, які ў выніку заняў трэцяе месца. Яшчэ бронзавым прызёрам стаў Сяргей Кесаеў, расіянін з Паўночнай Асеціі.

У барацьбе дзюдо, як і ў многіх іншых адзінаборствах, прысуджаюцца два трэція месцы. Адно з іх паміж сабою аспрэчваюць спартсмены, якія саступілі ў паўфінале. Уладальнік другой "бронзы" вызначаецца падчас спецыяльнага суцяшальнага турніру, дзе збіраюцца ўдзельнікі, якія саступілі на ранніх стадыях.

У фінальным паядынку смаргонец супрацьстаяў тытулаванаму 33-гадоваму Ігару Макараву з Гомеля, які ў 2004 годзе стаў алімпійскім чэмпіёнам, праўда, у вагавай катэгорыі да 100 кілаграмаў.

Аляксандр Вахавяк-старэйшы, бацька нашага спартсмена, быў яго першым трэнерам і цяпер, канешне, трымае пад сваёй апекай. Ён расказаў, што Ігар Макараў, зразумела, больш дасведчаны спартсмен, але сын за апошнія гады "вырас" па сваіх кандыцыях. Дарэчы, правілы барацьбы нядаўна змяніліся. Цяпер захопы ніжэй пояса забароненыя. Дык вось Саша пачаў паядынак актыўна, зрабіў тры атакі на першай хвіліне. Макараў хацеў абараніцца ад чарговага прыёму, таму мусіў "пайсці" яму ў ногі. У выніку алімпійскі чэмпіён быў дыскваліфікаваны, а ішла толькі саракавая секунда.

Вахавяк-малодшы жыве цяпер у Мінску, займаецца пад кіраўніцтвам галоўнага трэнера нацыянальнай зборнай Магамеда Рамазанава. Грошы ён атрымлівае ў якасці члена зборнай па барацьбе самба, а яшчэ служыць ў сталічным Дэпартаменце аховы.

Вагавая катэгорыя да 73 кілаграмаў сабрала 37 удзельнікаў. Аляксею Раманчыку 23 гады, яго першым трэнерам у Смаргоні быў **Канстанцін Кушнер**. На чэмпіянаце спартсмен правёў пяць паядынкаў, усе яны доўжыліся пэўны час – пяць хвілін. У чвэрцьфінале перамог расіяніна Дзмітрыя Рыбіна з Маскоўскай вобласці. У паўфінальным паядынку пераможаны прадстаўнік Мінскай вобласці Аляксей Свірыд. Нарэшце фінальная схватка завяршылася перамогай над Аляксандрам Какшой з горада Дуброўна.

Няблага выступілі ў вагавай катэгорыі да 81 кілаграма яшчэ двое былых выхаванцаў смаргонскай спартыўнай школы. Сярод 23 удзельнікаў **Сяргей Цярэшка** (узрост 21 год) заняў пятае месца, а **Уладзімір Грышкевіч** (узрост 23 гады) заняў сёмае месца, прычым на шляху да фіналу саступіў будучаму пераможцу расіяніну Алану Хубяцову з Паўночнай Асеціі. Дарэчы, падчас суцяшальнага турніру нашы спартсмены сустрэліся між сабою. Асноўныя пяць хвілін мацнейшага не выявілі, пасля дадатковых трох хвілін суддзі аддалі перавагу Сяргею Цярэшку.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



Фота judo.by

П'едэстал гонару ў вагавай катэгорыі звыш ста кілаграмаў. Злева направа: фіналіст Ігар Макараў, чэмпіён Аляксандр Вахавяк, бронзавыя прызёры Дзяніс Пархамук і Сяргей Кесаеў.

НАВІНЫ

## "Маладзечна" вяртаецца

**У новым сезоне галоўная раённая каманда вернецца да сваёй звыклай назвы. Замест "Забудовы" ў пратаколах зноў будзе запісвацца "Маладзечна".**

Месяц назад пад апякунствам аддзела райвыканкама па фізкультуры, спорце і турызме была створаная ініцыятыўная група, якая занялася пошукам сродкаў для падтрымкі маладзечанскага футбола на гэты год. Мяркуецца, што члены групы зоймуцца прыцягненнем спонсараў.

Другая ліга летась налічвала 19 камандаў. Тры мацнейшыя адправіліся "на павышэнне" ў першую лігу. Гэта "Смалявічы-СТІ", "Белтрансгаз" (Слонім) і "Іслач" (Мінскі раён). Адтуль "на паніжэнне" ідзе адна каманда – "Рудзенск" (Пухавіцкі раён). У Першай лізе, хутчэй за ўсё, выступіць аб'яднаны калектыў ФК "Слонім", таму ў Другой лізе ўжо не будзе "Камунальніка" з гэтага горада.

Не будуць сёлета выступаць "Дынама-2" (Мінск) і, магчыма, "Віцебск-2". Іх футбалісты змогуць удзельнічаць у новым турніры, юнацкім першынстве рэспублікі ва ўзроставай катэгорыі да 19 гадоў. Клуб "Мёры" наогул спыніў сваё існаванне – у мясцовым бюджэце не знайшлося грошай на чарговы сезон. Але пасля гадавой паўзы вяртаецца на рэспубліканскі ўзровень каманда "Вертыкаль" (Калінкавічы), традыцыйны ўдзельнік Другой лігі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## У Вілейцы спаборнічалі на лыжні

**ВІЛЕЙКА. 26 студзеня ў Вілейцы, ва ўрочышчы "Дубаўка", прайшла "Беларуская лыжня-2013".**

У спаборніцтвах прыняло ўдзел 39 чалавек. Мужчыны беглі дыстанцыю ў тры з паловай кіламетры, жанчыны – удвая менш.

З вынікамі спаборніцтваў пазнаёміў інструктар-метадыст фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс" **Аляксандр Вайда**. У мужчын перамог **Мікіта Каркотка**, другое месца заваяваў **Аляксандр Гарбацэвіч**, трэцяе – **Юры Кузьміч**. У жанчын перамožскай стала **Вікторыя Сайдашава**, другое месца на рахунку **Галіны Станкевіч**, трэцяе – у **Наіны Лычакі**.

**Аддзел інфармацыі.**

ХАКЕЙ

# "Лядовыя пінгвіны" перамаглі мінчан – 8:3

**МАЛАДЗЕЧНА. Чарговы матч маладзечанскай хакейнай каманды "Лядовыя пінгвіны" прайшоў у пятніцу, 25 студзеня, у лядовым палацы.**

Перамогай з лікам 8:3 скончылася сустрэча са сталічнымі хакеістамі з каманды "Minsk Jets".

Перад пачаткам гульні сапернікі ў турнірнай табліцы знаходзіліся на адзін радок вышэй за маладзечанцаў. Перамога "пінгвінаў" давала ім магчымасць дагнаць мінчан па колькасці ачкоў. Менавіта таму настрой на барацьбу быў вельмі высокі.

Матч не застаўся без увагі гледачоў. Трыбуны не былі поўныя, але многія аматары хакея прыйшлі ў лядовы палац. Некаторых цікавіла сама гульня, а не каманды. Сярод іх можна было пачуць гутарку: "А хто сёння гуляе? Глядзі, Маладзечна! У нас што, ёсць свая каманда?" Былі і тыя, хто прыйшоў на матч менавіта каб падтрымаць маладзечанцаў: такія гледачы выкрыквалі прозвішчы хакеістаў і актыўна рэагавалі на іх дзеянні на лёдзе.

Гульня пачалася крыху сумбурна: не заўсёды дакладныя перадачы, сутычкі са сваімі хакеістамі. Палову першага перыяду каманды прыглядаліся адна да адной. Але лепш і хутчэй гэта атрымалася ў "Лядовых пінгвінаў". Менавіта яны і адкрылі лік гульні – на дзясятай хвіліне шайбу забіў **Сяргей Гайдукевіч**.

Ужо праз тры хвіліны "пінгвіны" падвоілі свой адрыў ад саперніка. Аўтарам гола стаў **Сяргей Трацяк**. Цягам матча ён стаў самым выніковым хакеістам – на яго рахунку чатыры галы.

Мінчане пачалі забіваць у другім перыядзе. Нялёгка ў гэты час прыйшлося варатару маладзечанцаў **Паўлу Кароўкіну**.

На апошні перыяд "пінгвіны" вырашылі змяніць варатара – на лёд выйшаў **Андрэй Байлукоў**. Калі лічбы на табло дасягнулі ўпэўненых 5:1, гаспадары пляцоўкі расслабіліся і прапусцілі дзве шайбы.

Фінальную кропку ў гульні паставіў **Уладзімір Сянько** – яго гол за дзве хвіліны да канца матча зрабіў лік на табло канчатковым – 8:3.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Ля варотаў мінчан цягам усяго матча было неспакойна: маладзечанцы забілі 8 шайбаў.

Аўтар выказвае ўдзячнасць камандзе "Лядовыя пінгвіны" за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу.

Больш фота, відэа на сайце


**Камент-эксперт** rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

## На помнік Купалу ў Маладзечне няма грошай

"Чарговы помнік", на Вашу думку, ушанаванне памяці Купалы, Коласа і іншых са званнем народных – гэта турботы толькі народа! Значыць, калі такія, як Ленін, Сталін ды героі Беларусі, з'яўляюцца дзеячамі дзяржаўнымі, то і клопаты па іх ўшанаванні павінны быць толькі дзяржаўнымі. Ці ў гэтым ужо выпадку дзяржаве павінны народ аказваць дапамогу ў выглядзе суботніка? Тады атрымліваецца так, што спачатку з'ядзім тваё, а пасля кожны сваё! Штосьці ў нашай сучаснай сістэме не так. Тут альбо народ далёкі ад улады, альбо ўлада ад народа. І ў выніку гэтага, як бачым, гісторыя раздзяляецца на "правільную" і "няправільную". А гэта ўжо крах усяму. *Алесь Раткевіч.*

На маю думку, шаноўны Алесь Раткевіч, гэта ў першую чаргу клопат народа. А дзяржава мусіць да гэтага нейкім чынам прычыніцца. Я вось чытаў, што толькі з народнай ініцыятывы на мемарыяле ў вёсцы Боркі навялі парадак. І быў там канкрэтны ініцыятар з народа. І завуць яго – Алесь Раткевіч. А дзяржава ў тым выпадку толькі прычынілася. Збор народных сродкаў на помнікі нацыянальным героям – паўсюдная практыка. Калі знойдзецца адзін мецэнат – выдатна. Калі возьме на сябе клопат дзяржава (а тут мы маем на ўвазе чынавенства і яго права распараджацца грашыма, бо ў нас так ёсць), таксама выдатна. Але народ мусіць быць пры чым. ***Чарговы Помнік Алесю Раткевічу.***

"А людзі, глянуўшы на сонца, Адказ казалі грамадой: – Па колькі ж нам дасі чырвонцаў, Калі мы пойдзем за табой?" Так, у першай школе ёсць бюст Купалы, але ўжо колькі год няма ніводнага беларускага класа, як адказвае кіраўніцтва школы: "По просьбах родителей". Бацькі не разумеюць, аб чым пісаў Купала, а дзеці ўжо і мовы Купалы не ведаюць. ***Ендрусь.***

## У Мядзеле адкрылася "юбілейная" аптэка

Неяк зайшоў у мядзельскі еўраопт – як для гэтага пасёлка, дык хай сабе – крама. Аднак што ўразіла, то гэта дзікунская музыка ў гандлёвай зале – дапатопны, а-ля пачатку дзевяностых, "руска-бандыцкі шансон"! Дакладна, на пульце ў Мядзеле нейкі савок з брыдотным густам. Дарэчы, больш туды не заходжу, агідна пад гэткае музычнае афармленне набываць нешта, нібы спэцканае ўсё))) ***Алесь.***

**КОНКУРСЫ**

# У паяданні селядца пад шубай перамаглі "Бурачкі"

**ВІЛЕЙКА. Конкурс "Селядзец-шуба-ART 2013" прайшоў у пятніцу, 25 студзеня, у дзяржаўным прафесійна-тэхнічным каледжы.**

Конкурс быў прымеркаваны да Таццянінага дня. Таму мерапрыемства пачалося з віншавання Таццян.

На пачатку мерапрыемства навучэнцы каледжа прадэманстравалі ўборы, якія самі шылі з футра.

У конкурсе ўдзельнічалі тры каманды – "Бульбінка", "Бурачок" і "Селядзец". У кожнай удзельнічалі па тры чалавекі з розных курсаў. Капітанамі камандаў былі хлопцы.

– Кожны ў камандзе ў нас адказвае за пэўныя дзеянні. Адзін чалавек – за ачыстку прадуктаў, другі – за нарэзку салаты, а трэці – за афармленне, – кажа капітан каманды "Бурачок" **Валеры Грыцкевіч.**

Тым больш, што за кожнай камандай былі замацаваныя швачкі-кансультанты. Яны адказвалі за дызайн.

Журы ацаніла хуткасць наразання салаты "Селядзец пад шубай", а таксама тэхналогію працэсу яе прыгатавання, санітарныя нормы, вагу, знешні выгляд, смак і афармленне. Усе каманды афармлялі салату ружамі, выраблёнымі з буракоў ці морквы.

А галоўным у конкурсе было тое, хто ж з капітанаў хутчэй за ўсіх з'есць салату.

Хутчэй за ўсіх 150 грамаў салаты з'еў Валеры Грыцкевіч з каманды "Бурачок". Але потым ён прызнаўся, што трохі не хапала солі, але ўсё ж такі было смачна.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

**Каманда "Бульбінка". Такой смакаты, можа, адной талеркі і мала!**

**Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"**

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

**3 нядзеля 12.00** Г.Х.Андэрсэн **"СНЕЖНАЯ КАРАЛЕВА"** (чарадзейная казка)

**10 нядзеля 12.00** П.Васючэнка. **"НОВЫ КАЛАБОК"** (сучасная музычная казка)

**17 нядзеля 12.00** Э.Т.Гофман. **"ШЧАЎКУНЧЫК"** (калядная казка)

**24 нядзеля 12.00** Е. Чарняк. **"ВАСІЛІСА ПРЫГАЖУНЯ"** (чарадзейная казка)

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*

Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

**РЭПЕРТУАР кінатэатра "Радзіма"**

**1–10 ЛЮТАГА**

Трылер **"ЗМЯРКАННЕ. САГА. СВІТАНАК: ЧАСТКА 2"**, 2D (ЗША, 2012, дзецям да 14 гадоў прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
**1, 6-8 лютага – у 19.00**
**2 лютага – у 14.30, 19.00**
**3 лютага – у 14.30**
**4, 5 лютага – у 18.30**
**9 лютага – у 17.00**
**10 лютага – у 16.30**
Кошт білетаў – 30 000 рублёў (дзённы сеанс), 35 000 (вячэрні сеанс).

Камедыя **"ТОЙ ЯШЧЭ КАРЛСАН"** (Расія, 2012, дзецям да 12 гадоў прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
**2, 3 лютага – у 12.30**
Кошт білетаў – 10 000 рублёў.

Камедыя **"ДУБЛЁР"** (Расія, 2012, фільм дазволены для прагляду гледачам пасля 16 гадоў)
**1, 2, 6, 7 лютага – у 17.00, 21.30**
**3 лютага – у 17.00, 19.00, 21.00**
**4, 5 лютага – у 21.00**
Кошт білетаў – 22 000 рублёў.

Камедыя, прыгоды **"БІЛЕТ НА VEGAS"** (Расія, ЗША, 2012, фільм дазволены для прагляду гледачам пасля 16 гадоў)
**8 лютага – у 17.00, 21.30**
**9 лютага – у 19.30, 21.30**
**10 лютага – у 19.00, 21.00**
Кошт білетаў – 22 000 рублёў.

Анімацыйны блокбастар **"АДВАЖНАЯ СЭРЦАМ"** (ЗША, 2012, дзецям да 12 гадоў прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
**9, 10 лютага – у 14.30**
Кошт білетаў – 18. 00 рублёў.

Тэлефон для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

**ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ**

## Ці часта вы бачыцеся са сваімі аднакласнікамі?

**23%** Не ведаю, пра што з імі гаварыць, таму пазбягаю такіх сустрэч

**23%** Часта сустракаемся выпадкова, з некаторымі падтрымліваю сувязь

**23%** Ненавіджу школу і ўсё, што з ёй звязанае

**10%** Нікога не бачыў(ла) са школы

**10%** Некаторыя з іх дагэтуль мае лепшыя сябры

**8%** У школе былі лепшыя гады майго жыцця, заўсёды весела прыгадаць нейкія гісторыі з былымі аднакласнікамі

Усяго галасоў 47

**Мінскі абласны драматычны тэатр**

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**13 серада 11.30, 15 пятніца 11.30, 16 субота 10.30, 22 пятніца 11.30** **"БАЛАГАНЧЫК"** (феерычная клаўнада) *Арцём Белазёраў*

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**2 субота 17.00 "НЕ ТАКІ, ЯК УСЕ"** (камітрагедыя ў 2-х дзеях) *Аляксей Слапоўскі*

**5 аўторак 19.00, 24 нядзеля 17.00 ПРЭМ'ЕРА. "СЯМЕЙНЫ ПАРТРЭТ З ПАБОЧНАЙ АСОБАЙ"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Сцяпан Лабазёраў*

**7 чацвер 19.00 "МЕСЬЕ З РАГАМІ, МАДАМ З ВУСАМІ"** (дапаможнік для будучых раганосцаў у 2-х дзеях) *Марсэль Берк'е-Мерыньe, Анатоль Курбскі*

**9 субота 17.00 ПРЭМ'ЕРА. "БЫВАЙ, КАНФЕРАНСЬЕ!"** (спектакль-канцэрт у 2-х аддзяленнях) *Рыгор Горын*

**13 серада 19.00 "ПСІХААНАЛІТЫК ДЛЯ ПСІХААНАЛІТЫКА"** (адкрытая камедыя для дарослых у 2-х дзеях) *Дыяна Балыка*

**15 пятніца 19.00 "Шукаю сапраўднага мужчыну"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Алена Папова*

**21 чацвер 19.00 "№13"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Рэй Куні*

**26 аўторак 19.00 "СТАРАЯ ЗАЙЧЫХА"** (меладрама) ідзе на рускай мове *Мікалай Каляда*

**28 чацвер 19.00 ПРЭМ'ЕРА. "КАРОНА З КАХАННЯ"** (лірычная драма ў 2-х дзеях, прысвечаная жыццю і творчасці Янкі Купалы) *Анатоль Дзялендзік*

Тэатра мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*, тэл. для даведак: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: modt@tyt.by.

**СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | | 7 | | | | | |
| | 1 | 9 | | | | 5 | 2 | |
| | | | | 8 | 2 | | | 3 |
| 2 | | | | | | 4 | 6 | |
| | | 5 | | | | 9 | | |
| | 6 | 8 | | | | | | 2 |
| 5 | | | 9 | 1 | | | | |
| | | 3 | 8 | | | 1 | 4 | |
| | | | | | 3 | | 8 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

**ГАРАСКОП (1-7 ЛЮТАГА)**

**Авен.** Не прымайце ўсё цяжкасці блізка да сэрца, бо вы рызыкуеце расстроіцца не на жарт. Важна з лёгкасцю на душы ўспрымаць усё, што ні здарыцца.

**Цялец.** Вы будзеце ў стане, што называецца "сам не свой". Магчыма, пачнуцца нейкія змяненні ў асабістым жыцці.

**Блізняты.** Вы на раздарожжы, але памятайце, што ў вас не так шмат часу. Магчыма, адчуванне значнасці вашых пачуццяў да кагосьці моцна вамі перабольшанае.

**Рак.** Ці працаваць да сёмага поту, ці правесці час у сяброўскай атмасферы – выбіраць вам.

**Леў.** Аматары Інтэрнэта змогуць пазнаёміцца з чалавекам з іншага горада ці краіны. Адмясіцеся да знаёмства з усёй сур'ёзнасцю, магчыма гэты чалавек адыграе важную ролю ў вашым жыцці.

**Дзева.** "Чаго хачу – не ведаю, што ведаю – не хачу". Вы будзеце актыўныя, пастаянна за нешта брацца, кідаць і зноў брацца. Але нягледзячы на актыўнасць, дасягнуць канкрэтнага выніку наўрад ці ўдасца.

**Шалі.** Нечакана вы можаце аказацца вяршыняй любоўнага трохкутніка і ў эпіцэнтры бушуючых жарсцей. Паспрабуйце пазбегнуць высвятлення адносін.

**Скарпіён.** Сямейныя абавязкі стануць для вас цяжкім грузам. Наогул самаадчуванне можа пагоршыцца, асабліва калі вы грэбуеце падтрымкай сваёй фізічнай формы. Тое, як вы справіцеся з абставінамі гэтага перыяду, залежыць ад вашых поглядаў і сталасці.

**Стралец.** Добразычлівая псіхалагічная атмасфера дома дазволіць вам усім разам вырашаць любыя бытавыя пытанні. Вы, напрыклад, з лёгкасцю разам зможаце зрабіць рамонт у адным з пакояў.

**Казярог.** Калі вы хочаце развівацца далей, то трэба набрацца сіл і смеласці, каб адмовіцца ад таго, што вам перашкаджае.

**Вадалей.** Вы прыцягнеце ў сваё жыццё максімум станоўчай энергіі. Фартуна акажа вам падтрымку і засцеражэ ад неспрыяльных фактараў.

**Рыбы.** Настаў перыяд рэалізацыі ўласных жаданняў. Калі вы даўно пра нешта марылі, то самы час зрабіць першыя крокі да дасягнення сваёй мары.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета

Камент-эксперт

erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | 0 / 0 | | -3 / 0 | | 0 / 0 | | -3 / -2 | |
| | 726 | → 6 | 728 | ↖ 5 | 726 | ↘ 6 | 731 | ↗ 6 |
| Вільня | 0 / 0 | | -4 / -1 | | -1 / -2 | | -5 / -1 | |
| | 735 | ↘ 5 | 734 | ↖ 6 | 739 | ↘ 7 | 737 | ↑ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.57
Захад 17.55
Даўжыня дня 8.58

Усход 0.44
Захад 10.48
Квадра 4

**2 лютага, субота**

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | -2 / -3 | 736 | ↖ 4 |
| Гродна | -5 / -2 | 733 | → 6 |
| Мінск | -3 / -0 | 728 | ↖ 5 |
| Магілёў | -6 / -2 | 737 | ↖ 4 |
| Брэст | -2 / +5 | 727 | ↑ 6 |
| Гомель | -3 / -1 | 741 | ↖ 4 |

## ПРЫКМЕТЫ

- 2 лютага ў каталікоў Грамніцы, Срэценне. "На Грамніцы зіма з летам сустракаюцца".
- Студзеню маразы – лютаму мяцеліцы. На Цімафея-паўзімніка (4 лютага) пачынаюцца мяцеліцы.
- 6 лютага – Аксіння. Па стану надвор'я меркавалі пра вясну. "Якая Аксіння – такая і вясна".

## Чытайце праз тыдзень:

- **Штогодні традыцыйны месяцавы каляндар садавода і агародніка на 2013 год. Улік квадраў Месяца, становішча Месяца ў знаках задыяка. Рэкамендацыі для садаводаў і агароднікаў. Новае: парады і падказкі траўнікам і грыбнікам.**









## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МЯДЗЕЛА

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**24 студзеня ў зале пасяджэнняў Мядзельскага райвыканкама адбылося прафарыентацыйнае мерапрыемства для выпускнікоў школ. Вілейскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж наладзіў паказ прыгожых строяў, якія ствараюць навучэнцы. Упрыгожвалі мадэляў прычоскі, зробленыя юнымі цырульнікамі. Вілейскія прычоскі спадабаліся мядзельчанам. Жанчыны, якія стаялі побач, нават папрасілі сфатаграфаваць адну з іх, менавіта гэтую, каб потым уважліва разгледзець.**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці ведаеце вы, кім сталі вашы аднакласнікі?

**Яніна Сыракваш, пенсіянерка:**

– Я ўжо даўно скончыла школу. Больш за 50 год прайшло. Усе мае аднакласнікі ўжо пенсіянеры. Але раней яны мелі розныя спецыяльнасці. Былі сярод іх настаўнікі, медыкі, ветэрынары.

**Алена Дзямская, настаўніца:**

– У асноўным, ведаю. Ёсць сярод іх і шмат ваенных. Адзін мой аднакласнік працуе лётчыкам. Рэдка іх бачу. Але чым радзей сустракаеш чалавека, тым цікавей з ім размаўляць.

**Ніна Сушко, тэхнічны работнік:**

– Не ведаю. 40 год таму развіталіся. Цяпер я не маю з імі зносінаў. І не сустракаюся.

**Ірына Стасевіч, настаўніца музыкі:**

– Я вучылася ў музычным класе, таму пераважна мае аднакласнікі сталі музыкантамі. Некаторыя ў школе выкладаюць, а некаторыя выйшлі на прафесійны ўзровень. І цяпер яны вядомыя людзі.

**Віталь Халявінскі, дырэктар прыватнага прадпрыемства:**

– Не ўсіх, але ў большасці. Я сустракаюся не з аднакласнікамі, а з аднагрупнікамі. У гэтым годзе збіраемся другі раз за 20 год.

**Вольга Акотчык, пенсіянерка:**

– Усіх-усіх ведаю. Школу скончыла 44 гады таму. З аднакласнікамі збіраемся кожныя пяць год. У 2014 будзе 45-годдзе заканчэння школы. Будзем збіраць усіх!

**Наталля Тумель, бухгалтарка:**

– Палову ведаю. Ёсць і медсястра, і інжынеры, праграміст, архітэктар. Бачуся з некаторымі з іх перыядычна. Ва ўсіх ужо свае сем'і, свае жыццё, свае інтарэсы, таму складана сустрэцца.

**Падрыхтавала Ганна ШАКЕЛЬ, школа маладога журналіста.**

Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 5 (927) 1.02.2013.
Друкарня ТДА "Знаменне". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 ад 25.02.2009 г. Зак. 70. Падпісана ў друк у 10.00 31.01.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.